+тэлепраграма

№ 35 (297) 20 верасьня 2002 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у пятніцы

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА



## Курс на аўтарытарызм нязьменны

**Дзяржаўны курс на аўтарытарнае кіраваньне і ўмацаваньне сувэрэнітэту застаецца нязьменны — такая галоўная выснова з прэс-канфэрэнцыі Аляксандра Лукашэнкі. У той жа час рыторыка лагаднее, Беларусь болей не змагаецца з Захадам. Краіна гатовая скарыстацца падтрымкай "для прывязкі рубля да эўра або даляра". Магчымасьцю памілаваньня Івашкевіча і Маркевіча не пацікавіўся ніхто з журналістаў.**

Вопытны Лукашэнка на глыбокім сінім фоне. Старанна прадуманы пачатак прэс-канфэрэнцыі. Прэзыдэнт вярнуўся на чыстую трасянку, але асьцярожна падбірае словы. Прагаворваецца, што ня будзе шчырым, і з усьмешкай папраўляе сябе. У залі — журналісты з усяго сьвету і найвышэйшыя ўрадоўцы краіны. Адна з найбуйнейшых прэс-канфэрэнцый за час прэзыдэнцтва.

На пытаньне пра галоўныя дасягненьні году Лукашэнка адказвае: рэформы, найперш рэформа адукацыі.

**Працяг на старонцы 5.**

# Сястра Васіля Быкава



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

**Старонка 10.**



## Расею выкідаюць з Каўказу

**Масква ня ёсьць адзіным геапалітычным цэнтрам СНД. На гэта ў Крамлі не хапае рэсурсаў, перш за ўсё эканамічных. Расея мала што можа прапанаваць дзяржавам СНД, якія ўсё больш у сваёй палітыцы глядзяцца на Захад. Яна ня здольная канкураваць з Вашынгтонам у маштабе сумесных з постсавецкімі краінамі эканамічных праектаў і таму дэманструе гатовасьць выкарыстаць для захаваньня геапалітычнага ўплыву грубую сілу. Менавіта так трэба разумець заяву Уладзімера Пуціна ад 11 верасьня, адрасаваную кіраўніцтву Грузіі.**

Сапраўдная прычына ўльтыматуму ня ў тым, што Тбілісі ня мае кантролю над Панкіскай цясьнінай, дзе базуюцца аддзелы чачэнскіх партызанаў. Патрабаваньне сумеснай антытэрарыстычнай апэрацыі ў Панкісі — толькі шырма, што хавае сапраўдныя намеры Крамля. Масква губляе пазыцыі ў Закаўказьзі. І не апошнюю ролю тут адыгрывае празаходняя арыентацыя Тбілісі.

Расея імкнецца перакласьці адказнасьць за стварэньне канфліктнай сытуацыі на Грузію. Але менавіта Масква вінная ў пагаршэньні двухбаковых адносінаў. У часе грузіна-абхаскага канфлікту 1992—93 г. яна фактычна санкцыянавала стварэньне Канфэдэрацыі народаў Каўказу дзеля вайсковае дапамогі Сухумі. Атрады этнічна блізкіх абхазам народаў Расеі — адыгейцаў і кабардзінцаў — адыгралі не апошнюю ролю ў тым, што грузінскі бок не здабыў перамогі ў вайне за аб'яднаньне краіны. На словах дэкларуючы павагу да тэрытарыяльнага адзінства Грузіі, Расея і надалей падтрымлівала сэпаратысцкія рэгіёны — Абхазію і Паўднёвую Асецію.

У Маскве разьлічвалі, што праз узмацненьне пазыцыяў у гэтых рэгіёнах Расея зможа ўтрымаць Грузію ў сфэры свайго ўплыву. У 1995—99 г. 80 тыс. жыхароў Абхазіі атрымалі расейскае грамадзянства. Грузінская эліта пасьля гэтага канчаткова страціла сымпатыі да Крамля.

**Працяг на старонцы 7.**

# Нацыяналісты ўцякаюць зь Беларусі?

**Сёньняшняя беларуская рэчаіснасьць бянтэжыць многіх палітычна заангажаваных людзей. Расея абвяшчае пра хуткі аншлюс нашай краіны, апазыцыйныя сілы ў разгубленасьці, Лукашэнка бароніць незалежнасьць, а газэта ягонай адміністрацыі друкуе артыкул на тарашкевіцы. Між тым, нацыяналістычны лягер не прапанаваў грамадзтву свайго праекту абароны незалежнасьці дзяржавы.**

Нядаўна на радыё "Свабода" паэт Міхась Скобла зьдзіўляўся, што беларускія праварадыкальныя арганізацыі ніяк не адрэагавалі на заявы У.Пуціна, не напалохалі расейцаў пэрспэктывай "другой Чачэніі". Была толькі адна заява — незарэгістраванай беларускай патрыятычнай арганізацыі "Белы легіён", у якой усходнім суседзям параілі: "Лепш не нясіце зла і разбурэньня ў наш дом". А дзе ж астатнія? Суразмоўца Скоблы паэт і былы кіраўнік нацыяналістычнага "Правага рэваншу" Славамір Адамовіч абвесьціў у этэры "Свабоды", што зьяжджае на Захад. Трохі раней перабраўся ў Бэльгію былы камандзір "Краю" Вадзім Кабанчук.

Нацыяналісты ўцякаюць зь Беларусі. Наракаюць на "цяжкую, незразумелую сытуацыю". Раней было проста: Расея — вораг, Лукашэнка — ейны паслугач, таксама вораг. Цяпер ўсё ускладнілася, і ўжо Лукашэнка ледзь ня стаўся ворагам Масквы, а іх, нацыяналістаў, па-ранейшаму ніхто на Бацькаўшчыне не прызнае за "ратаўнікоў нацыі". Дый ня надта ж яны варушацца, пра іх ужо пачалі забываць.

Крызыс непазьбежна спасьцігае любую палітычную сілу, і кожны па-рознаму зь яго выходзіць альбо... не выходзіць. Беларускі праварадыкальны лягер сёньня амаль не падае прыкметаў жыцьця альбо існуе віртуальна. Нядаўна зьявіліся ўлётки раней невядомай арганізацыі "Палескае партызанскае рушаньне", якая абвяшчае пра пачатак самай сур'ёзнай барацьбы, але, зразумела, яе не пачне. Маладыя нацыяналісты, напэўна, не разумеюць, што такімі "гульнямі" кампрамэтуюць саму ідэю ў зародку, трацяць давер да сябе.

Сёньня, калі нацыянальныя сілы разьяднаныя, а іх чальцы разгубленыя, калі ідзе дыскусія, варта ці ня варта падтрымліваць Лукашэнку як абаронцу незалежнасьці Беларусі ў выпадку ягонага канфлікту з Расеяй, частка віны за такую сытуацыю ляжыць і на правых радыкалах. Яны не прапанавалі грамадзтву свайго праекту абароны незалежнасьці дзяржавы. А нацыяналісты заўсёды мусяць востра рэагаваць на сытуацыю, калі ідзе гаворка пра незалежнасьць Бацькаўшчыны. Інакш паўстае пытаньне, ці тыя людзі назваліся нацыяналістамі.

**Павал Сумарока**

# Дзёньнік з Пагоняй

**На другой старонцы школьнага дзёньніка зьмешчаныя сымбалі лукашэнкаўскай агітацыі — "герб, сьцяг і гімн".** Прапаную рабіць і распаўсюджваць такія самыя, але зь беларускімі сымбалямі, старонкі для школьных дзёньнікаў. Выбар тэксту гімну, які мае быць надрукаваны побач зь бел-чырвона-белым сьцягам і Пагоняй, а таксама стратэгію выкананьня і распаўсюджваньня такіх старонак пакідаю больш дасьведчаным людзям.

**Дзьмітры Вінчэўскі з tut.by**

**Паводле папярэдніх зьвестак апошняга польскага перапісу, на Беласточчыне жыве каля 20 тысяч беларусаў. Камэнтар Сакрата Яновіча, пісьменьніка і публіцыста зь Беласточчыны.**

# Тыя самыя беларусы

Паводле афіцыйна яшчэ не пацьверджаных зьвестак, сёлетні польскі перапіс насельніцтва налічыў каля дваццаці тысячаў беларусаў у Беластоцкім краі замест спадзяванага мінімуму ў дзесяць разоў большага.

Гэта мяне не зьдзівіла, хоць прыкра ўразіла. Нашы тут беларусы і беларусы ў Рэспубліцы Беларусі — гэта мэнтальна тыя самыя беларусы. Розьніца цывілізацыйная: польскія беларусы зьліваюца з братнім польскім народам, а не з расейскім, як савецкія.

Тыя дваццаць тысяч, што дэкляравалі сябе беларусамі ў Беластоцкім краі, на тле чвэрці мільёна царкоўных вернікаў, цалкам адпавядаюць адсотку сьвядомых беларусаў і ў Рэспубліцы Беларусі. У вас далёка за 80% савецкіх людзей, грунтоўна



русіфікаваных, якія беларускую нацыянальнасьць не адрозьніваюць ад беларускага грамадзянства.

**Сакрат Яновіч, Крынкі**

# Чужыя рыцары

**Я ня згодны з аўтарам артыкула "Народнае сьвята" ("НН", №34 ад 13 верасьня) А.Шанскім, які піша, што "большая частка прысутных сабралася адзначыць Дзень беларускай вайсковай славы". Гаворка йдзе пра сьвята "Заслаўскі набат". Думаю, што аўтар выдае жаданае за сапраўднае. Я лічу, што імпрэза ў Заслаўі ўвогуле ня мае ніякага дачыненьня да Дня 8 верасьня.**

Проста выпадковае супадзеньне датаў. У Заслаўі адбывалася звычайная тусоўка расейскамоўных клюбаў, якіх цяпер шмат разьвялося ў Беларусі. Я адмыслова хадзіў па цэнтральнай плошчы мястэчка і прыслухоўваўся, якой мовай гавораць нашы рыцары. Па-нашаму не пачуў ніводнага слова. Па-беларуску гаварыў толькі вядучы фэсту, які на парадзе прадстаўляў рыцараў, што прыехалі на сьвята. Выглядала гэта так. Вядучы голасна абвяшчаў: "Вас вітае рыцарскі клюб "Дзікае паляваньне" з Бабруйску". Да мікрафона падыходзіў кіраўнік клюбу і, як бы папраўляючы вядучага, казаў: *"Вас приветствует военно-исторический клуб "Дикая охота" из Бобруйска. С праздником!"* Прыкра, няёмка і сорамна было бачыць і чуць гэта.



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

**На Заслаўскім фэсьце**

На расейскай мове была складзеная праграмка сьвята, указальнікі, іншая інфармацыя. Асабліва зьдзівіла, што рыцарскія турніры былі платнымі, што некаторыя "дамы сэрца" шпацыравалі ў сярэднявечнай вопратцы, але з цыгарэтамі ў зубах, а марозіва было завезена аж з... Калугі!

Артысты ды цудоўны кірмаш народных промыслаў трохі выратавалі становішча, надалі сьвяту беларускасьці.

Але добра, што хоць так. Арганізатары асабліва не надакучалі, усё йшло самацёкам, народ гуляў, піў напоі, еў бліны, набываў сувэніры — карацей, пераважаў "сьвяточны элемэнт".

Можна было б толькі радавацца, калі б Заслаўе гэткім чынам сьвяткавала Дзень беларускай вайсковай славы. Але гэта было зусім іншае сьвята, і ня трэба да яго прымазвацца. Як ня трэба і зьдзекавацца з апазыцыі, што здолела сабраць на свае палітычныя акцыі ўсяго 170 чалавек. Быў я і на гэтых акцыях і лічу іх высокадухоўнымі. Шкада, што людзі не прыходзяць, прыдумляючы сабе розныя прычыны, але тыя, хто прыйшоў, добрым словам успомнілі сваіх слаўных продкаў, аддалі даніну павагі найлепшым сынам і дочкам, якія паклалі свае жыцьці за свабоду і незалежнасьць Бацькаўшчыны. І з намі былі наша мова, нашы сымбалі, нашы вершы, нашы песьні, наш беларускі вольны рух.

**Лявон Гуменьнікаў, Менск**

**Ад рэдакцыі.** Аўтар матэрыялу меў на ўвазе найперш не арганізатараў сьвята і ня рыцараў, якіх яны сабралі, а такіх гледачоў, як аўтар ліста, што ехалі на рыцарскі фэст 8 верасьня як на сьвяткаваньне Дня вайсковай славы.

## Івашкевіч: два гады "хіміі"

16 верасьня судзьдзя Першамайскага раёну Менску Ўладзімер Кобышаў на закрытым судовым працэсе прызнаў галоўнага рэдактара газэты "Рабочы" Віктара Івашкевіча вінаватым у замаху на зьнявагу і паклёп на прэзыдэнта (частка 2 артыкула 367 і артыкул 368 з прымяненьнем артыкула 14 КК). Журналіст атрымаў два гады "хіміі". Падставай для крымінальнага перасьледу стаўся артыкул "Злодзей мусіць сядзець у турме", надрукаваны ў жніўні 2001 г. у спэцвыпуску "Рабочага". Да лета В.Івашкевіч праходзіў па справе як сьведка. Судовы працэс супраць яго быў распачаты 11 верасьня і скончыўся ў рэкордна кароткія тэрміны. Віктар Івашкевіч разам з адвакаткай Тацянай Станкевіч зьбіраюцца абскардзіць прысуд у Менскім гарсудзе, але найбольшае, на што спадзяюцца, — зьменшыць тэрмін да году.

Беларускі і Ангельскі ПЭН-цэнтры прынялі рашэньне аб прыняцьці В.Івашкевіча ў ганаровыя сябры.

**Глеб Хмяльніцкі**

ініцыятыва БАЖ

# Кодэкс маўчаньня

**Грамадзкі абавязак прэсы заключаецца ў тым, каб чапляцца да ўлады пры кожнай зручнай нагодзе. Для нашага вуха гэты прынцып гучыць нязвыкла і жорстка. Але, сфармуляваны даўно і не ў Беларусі, ён даказаў сваю слушнасьць на практыцы.**

Калі прэзыдэнта Злучаных Штатаў Амэрыкі сродкі масавай інфармацыі, вобразна кажучы, вазілі фізіяноміяй па стале за інтрыжку з практыканткаю, ён далёка не адразу прызнаў сваю віну. Але пагражаць газэтам і журналістам судом кіраўнік звышдзяржавы сабе не дазволіў. Хаця зьдзекаваліся зь яго за дробнае, па сутнасьці, свавольства ў такіх формах і выразах, якія нашым чыноўнікам не зьяўляліся ў самых страшных снах. Паспрабуем высьветліць, чаму моцныя палітыкі не бяруць прэсы за горла і ня сыкаюць пры гэтым у твар: "За ўсё адкажаш!".

Асноўнымі складнікамі посьпеху ў сучасным сьвеце зьяўляюцца рынкавая эканоміка і дэмакратыя, неад'емнаю часткаю якой ёсьць свабода друку. Здаровай уладзе ня страшныя крытыка і напады журналістаў. Наадварот, яна выкарыстоўвае СМІ ў якасьці кантрольна-карэкціровачнага мэханізму, ці, папросту, погляду звонку, які дазваляе заўважыць зьявы, часам схаваныя ад уласных вачэй. Пры гэтым збожжа трэба аддзяляць ад пустазельля: заўвагі прымаць да ведама, а ўсялякага кшталту глупства ігнараваць.

Інакш ідуць справы ў нас. Улада, як цяжкахворы, патрабуе стэрыльнай атмасфэры, дзе зьяўленьне альтэрнатыўнага погляду на тое, што адбываецца, недапушчальнае. Любую спробу грамадзкага кантролю яна ўспрымае як асабістую зьнявагу і пагрозу ўласнаму існаваньню. Таму ў краіне фактычна зьліквідаваныя як незалежныя інстытуты заканадаўчая і судовая ўлада, цалкам пастаўленыя пад кантроль праваахоўныя органы ды паралізаваная дзейнасьць апазыцыі.

Толькі незалежным сродкам масавай інфармацыі больш ці менш пасьпяхова ўдаецца захаваць самадастатковасьць. Іх не ўдалося пахаваць ні эканамічнымі мэтадамі (бессаромнымі ў параўнаньні з афіцыёзнымі газэтамі тарыфамі на дастаўку і распаўсюд), ні пастаяннымі штрафамі, што накладаюцца судамі і шматлікімі кантралёрамі, ні іншымі ўдарамі ніжэй поясу, якіх не пералічыць. І тады ўлада вырашыла пусьціць у ход яшчэ больш "моцны аргумэнт" — Крымінальны кодэкс. Ад гэтага часу нашыя "безабаронныя" і "ўсімі крыўджаныя" чыноўнікі знаходзяцца пад аховай некалькіх артыкулаў КК. Любая крытыка на іхны адрас (дарэчы, ня толькі ў СМІ, але і проста з вуснаў любога грамадзяніна) пры жаданьні можа быць прыраўнаваная да злачынства.

Прыхільнікі гэтых мераў, як правіла, ня схільныя абгрунтоўваць свой пункт погляду. У крайнім выпадку, яны штосьці кажуць пра злоўжываньні свабодаю друку. У сувязі з гэтым можна правесьці такую паралель. Калі сумленнага чалавека назавуць злодзеем, яму гэта, натуральна, будзе непрыемна. Але ён вольны або не зьвяртаць увагі на зьвесткі, якія не адпавядаюць рэчаіснасьці, або падаць пазоў аб абароне гонару і годнасьці (хаця тое, як нашыя суды ахоўваюць дзявочую чысьціню мундзіраў высокапастаўленых дзеячоў, — гэта асобная песьня). Калі ж злодзеем назавуць таго, на кім даўно палае яркім полымем галаўны ўбор, гэта для нячыстага на руку пэрсанажа сапраўды небясьпечна. Таму вышэйзгаданыя артыкулы КК прызначаныя для абароны менавіта злачынцаў, а ня добрапрыстойных грамадзян, якія здольныя захоўваць сваю рэпутацыю на агульных падставах.

Шчыра кажучы, сытуацыя нашая крайне запушчаная. Надзеі на тое, што ўлада прыслухаецца да голасу грамадзкасьці, няшмат. Але з маўклівымі лічыцца ня будуць увогуле ніколі. Таму важна, каб ініцыятыва Беларускай асацыяцыі журналістаў аб адмене артыкулаў КК, што ператвараюць яго ў "кодэкс маўчаньня", знайшла падтрымку ў нармальных людзей, якім не абыякавая іх асабістая будучыня. Сьвітаньне непазьбежнае, але хуткасьць яго надыходу залежыць ад таго, як чынна мы будзем набліжаць гэты момант сваімі дзеяньнямі.

**Аляксандар Старыкевіч**

Падтрымліваю зварот Беларускай асацыяцыі журналістаў аб адмене артыкулаў Крымінальнага кодэксу "Паклёп у дачыненьні да прэзыдэнта Рэспублікі Беларусі" (арт.367), "Абраза прэзыдэнта Рэспублікі Беларусі" (арт.368) і "Абраза прадстаўніка ўлады" (арт.369)

| Прозьвішча, імя, імя па бацьку | Год нар. | Адрас | Асабісты подпіс |
|---|---|---|---|
| | | | |
| | | | |
| | | | |
| | | | |

Ваш подпіс можа стацца падставай для заканадаўчай ініцыятывы з мэтай адмены вышэйзгаданых артыкулаў. Запоўнены купон просім накіраваць у рэдакцыю газэты: Менск, 220050, а/с 537.

# Эротыка і рыцары — новыя “разынкі” БТ



**21 верасьня Першы нацыянальны тэлеканал распачне новы сэзон. Каля Палацу спорту ў Менску з гэтай нагоды нават адбудзецца сьвята (пачатак а 13-й). Зь цяжкасьцю верыцца, што да стварэньня новых праграмаў прывяло зьяўленьне тэлеканалу АНТ. Асноўным канкурэнтам для БТ па-ранейшаму застаюцца расейскія тэлеканалы, бескантрольны допуск якіх у Беларусь цягам апошніх гадоў прывёў да таго, што практычна не фінансаваную Беларускую тэлевізію мала хто глядзеў. Пераабсталяваньне студыяў ды плойма новых, хай сабе й малабюджэтных, праграмаў можа сьведчыць пра рэальнае жаданьне кіраўніцтва пертварыць нарэшце канал з чыста ідэалягічнага інфарматара ў тэлебачаньне сваёй краіны.**

Найперш зазнала зьменаў студыя Агенцтва тэленавінаў. Яно займела спадарожнікавую перасоўную тэлестанцыю. Цяпер не давядзецца глядзець сюжэт зь якога Лепельскага раёну і бачыць заміж “карцінкі” здымак карэспандэнта. Апроч таго, студыя АТН будзе аздабляцца з дапамогай унікальнага абсталяваньня, “халоднага сьвятла”. Промні гэтай апаратуры дазволяць мадэляваць інтэр’ер, практычна не выкарыстоўваючы дэкарацыяў. У вялікай (600 кв.м) студыі БТ таксама паставілі новае асьвятляльнае абсталяваньне, каб пазьбегнуць вялікіх і грувасткіх дэкарацыяў. Гэта дапаможа хутка рыхтаваць студыю да розных праграмаў.

### “Панарама” паменее

Зьмены будуць ня толькі вонкавымі і тэхнічнымі. Інфармацыйная штодзённая “Панарама” скароціцца з 45 да 35 хвілінаў і на манер блёкаў навінаў РТР будзе даваць 10-хвілінны дадатак зь мясцовымі навінамі. Жыхары кожнай вобласьці змогуць глядзець навіны свайго рэгіёну. Інфантыльныя навіны тэлеканалу СТВ атрымаюць, такім чынам, у асобе Першага нацыянальнага моцнага канкурэнта. Зьявіцца й нядзельная “інфармацыйна-аналітычная праграма новага тыпу”, на якую, відаць, ляжа асноўная адказнасьць за правядзеньне ў масы дзяржаўнае ідэалёгіі. Прынамсі, журналісты АТН ужо рыхтуюць “Вялікі рэпартаж” — сэрыю фільмаў пра жыцьцё ў постсавецкіх краінах, якая мусіць прадэманстраваць нам перавагі “беларускага шляху”.

### “Падарожжы” і “Турніры”

Цешыць, што на Першым нацыянальным пабольшала перадачаў на гістарычную тэматыку: “Сьвятыні Беларусі”, “Падарожжа дылетанта”, “Цені і фігуры” (цыкл прысьвячаецца малавядомым фактам зь біяграфіяў Янкі Купалы і Якуба Коласа). А “разынкай” гістарычнага набору мусіць стаць пазнавальная гульня “Турнір” — аналяг вядомай францускай “Форт Баярд”. Дырэктар забаўляльнага вяшчаньня Першага нацыянальнага Ўладзімер Максімкаў распавёў “НН”, што праграму тэлевізійнікі рыхтавалі з дапамогай рыцарскіх клюбаў Беларусі. Першыя тры гульні пройдуць у Мірскім замку, і ўдзельнікі ў іх ужо набраныя. Надалей паспрабаваць свае сілы зможа кожны ахвотны: ані век спаборніка, ані пол, ані адукацыя значэньня ня маюць. “Мы не зьбіраемся абмяжоўвацца Мірскім замкам”, — зазначыў У.Максімкаў. Апроч выпрабаваньняў на спрытнасьць, сілу, трываласьць, у праграме будуць і пытаньні на веданьне беларускай гісторыі, на кемлівасьць. Прызы ў “Турніры” маркуюцца “неграшовыя”. У.Максімкаў лічыць, што меч — значна лепшы прыз, чым грошы. Праўда, беларускай мовы ў праграме будзе мізэр: па-беларуску прагучыць гістарычная даведка пра мясьціну, дзе адбываецца гульня. Працоўнай мовай праграмы будзе расейская.

### Лёгкая эротыка

Колькі тыдняў таму БТ перакрыла начны этэр расейскім тэлеканалам. Цяпер высьветлілася, што гэта была прэлюдыя да выхаду ў начны этэр самой Беларускай тэлевізіі. Ён пачнецца з 24 верасьня.

Першы нацыянальны мяркуе займаць 5 начэй на тыдзень. “Вольнымі” засталіся ночы зь нядзелі на панядзелак і з панядзелка на аўторак. Перадачы для тых, хто ня сьпіць, будуць згрупаваныя паводле тэматыкі. Выходзіць яны мусяць не ў жывым этэры, а ў запісе.

Аўторкавая ноч атрымала ўмоўную назву “Мужчынская бессань”, серадовая — “Дзёньнік жанчыны”, чацьвярговая — “Зорная ноч” (праграмы пра шоў-бізнэс), пятнічная — “Начная размова” з Аляксандрам Дамарацкім (з “жывой” музыкай), суботняя — “Проста музыка”.

Вестка, якой цяжка было напачатку даць веры, — наяўнасьць эротыкі на БТ. У.Максімкаў кажа, што яна будзе “па-сапраўднаму лёгкай і прыгожай” і зьявіцца ў этэры ў час, калі яе будзе глядзець толькі дарослая аўдыторыя. Самае пікантнае, што Першы нацыянальны абяцае паказваць эротыку, зьнятую ўласнымі сіламі. Хто і дзе будзе здымаць — пакуль таямніца.

### Безь пірацтва

БТ наагул зьдзіўляе шмат чым. Вось, у прыватнасьці, абяцаюць спыніць “пірацтва” і паказваць гледачам толькі ліцэнзійную прадукцыю. Пасьля гучных скандалаў з паказам футбольных матчаў чэмпіянату сьвету ды фільмаў Кустурыцы гэтае абяцаньне гучыць дужа надзённа.

Ці ёсьць пагроза таго, што гледачам цяпер давядзецца абмежавацца старымі савецкімі кінафільмамі і спартовымі матчамі толькі беларускіх камандаў? Галоўны рэдактар аддзелу ліцэнзаваньня Ларыса Пісарчык цьвердзіць, што тэлеканал закупіў пакет фільмаў Гічкока, сёлетнія оскараўскія прэм’еры “Айрыс” і “Алі”.

Праблема зь ліцэнзійнымі паказамі днямі зноў сталася актуальнай — пачаліся матчы групавой фазы футбольнай Лігі чэмпіёнаў. Трансьлююцца яны па НТВ апоўначы, калі гэты тэленал, як і іншыя расейскія, у Беларусі не трансьлюецца. Ці не апынуцца беларускія заўзятары ў той самай сытуацыі, у якой яны ўжо былі ў чэрвені, калі пачаўся чэмпіянат сьвету? Выканаўца абавязкаў галоўнага рэдактара спартовых праграмаў Тацяна Падбярэская, камэнтуючы сытуацыю для “НН”, зазначыла: “Нават калі расейскія тэлеканалы купляюць правы паказу, праваўладальнікі агаворваюць тэрыторыю, на якой можна паказваць. Таму расейскія тэлеканалы будуць абавязаныя перакрываць паказ матчаў на тэрыторыю Беларусі. Беларуская тэлевізія пакуль вядзе перамовы з праваўладальнікамі. Пытаньне застаецца адкрытым”.

**Аркадзь Шанскі**

# Тэлесэзон у Амэрыцы

Увосень ва ўсім сьвеце пачынаецца новы тэлесэзон. Заканадаўцам моды ў шоў-індустрыі і найбуйнейшым вытворцам адпаведнага матэрыялу застаецца Амэрыка. Лета лічыцца там сэзонам баевікоў — славутыя студыі дазваляюць сабе выпуск неабцяжараных мастацкімі высілкамі карцінаў. І ў гэтым сэзоне гледачам падрыхтаваныя выбухі на ўвесь экран, хлопцы са зброяй незвычайнай велічыні й магутнасьці ды — у якасьці адбітку расейскіх катастроф — дэфэктныя падводныя лодкі. Але нават паводле галівудзкіх стандартаў сёлетні сэзон перанасычаны фільмамі, створанымі ў працяг вядомых гітоў (“Людзі ў чорным-2”) ці пераробкамі славутых мульфільмаў ды коміксаў (як “Скубі-ду” ці “Чалавек-павук”).




Апошнім часам папулярныя кінаактары выяўляюць жаданьне супрацоўнічаць з тэлестудыямі — 13 сэрыяў даюць большыя магчымасьці для самарэалізацыі, чым дзьвюхгадзінны кінафільм. У выніку на амэрыканскім экране ў гэтым сэзоне будзе болей мастацкасьці й глыбокага псыхалягізму. Тэлеканалы абяцаюць шэраг новых сэрыялаў, сярод якіх “Сапраны” (пра падвойнае жыцьцё боса мафіі) ці “24”. Кожны эпізод апошняга сэрыялу прысьвячаецца адной гадзіне з жыцьця супрацоўнікаў антытэрарыстычнага аддзелу ЦРУ ў Лос-Анджэласе, якія выкрываюць змову супраць кандыдата на пасаду прэзыдэнта. У сэрыяле выкарыстоўваецца “падзелены экран” — каб адначасова паказваць розныя лініі сюжэту. А сэрыял “Шэсьць футаў у глыбіню”, зьняты ў стылі “чорнай камэдыі”, распавядае пра жыцьцё сям’і, якая трымае пахавальны салён. Не шкадуючы глядацкіх нэрваў, камэра паказвае працэс апрацоўкі мерцьвякоў перад пахаваньнем і драматычныя канфлікты паміж сямейнікамі. У жанры ток-шоў сэнсацыяй сэзону магла б стацца новая штодзённая перадача зь Білам Клінтанам у якасьці вядучага, пра што зь ім вялі перамовы аж два каналы амэрыканскай тэлевізіі. Урэшце Клінтан адмовіўся, бо дужа цяпер заняты дабрачыннасьцю. Але спадзеў на будучыню пакінуў.

**Міхал Чарвінскі**

# Бітва за ўласнасьць ФПБ

## *Зьезд прафсаюзаў праходзіць пад лёзунгам змаганьня з карупцыяй у арганізацыі*

**18—19 верасьня ў Менску прайшоў чацьвёрты зьезд Фэдэрацыі прафсаюзаў Беларускай. Гэты форум мусіў зацьвердзіць старшыню ФПБ, вызначыць кірункі развіцьця аб’яднаньня на 2002—2005 г. Аднак галоўнай інтрыгай застаецца барацьба за прафсаюзную ўласнасьць, разгорнутая Леанідам Козікам. Канкрэтным яе ўвасабленьнем на зьезьдзе стаўся “антыкарупцыйны” даклад Рэвізійнае камісіі ФПБ ды прысутнасьць прадстаўнікоў пракуратуры.**

Новы старшыня пачаў сваю дзейнасьць з кадравых зьменаў. У адстаўку найперш пайшлі прафсаюзныя чыноўнікі, што мелі справу з уласнасьцю. Зьдзіслава Зайкоўскага на пасадзе старшыні “Дырэкцыі па кіраваньні ўласнасьцю ФПБ” замяніў выхадзец з Магілёўшчыны Валеры Вішнеўскі. Выкінуты з ФПБ й Анатоль Садоўскі, начальнік гаспадарчага ўпраўленьня УП “Дом прафсаюзаў”, якое займалася матэрыяльна-тэхнічным забесьпячэньнем і абслугоўваньнем ФПБ. Яго зьвінавацілі ў злоўжываньні службовым становішчам: чыноўнік, сьцьвярджаюць у Фэдэрацыі, уладкаваў на працу дачку, якая працавала не зьяўлялася, а заробкі атрымлівала. Пасьля таго як А.Садоўскі вярнуў у казну “заробленыя” такім чынам паўтары тысячы даляраў, зь ім цішэй сапай разьвіталіся.

Зь верасьня пачалася актыўная прапагандысцкая кампанія супраць ранейшага кіраўніцтва ФПБ, якое, нібыта, злоўжываючы службовым становішчам, незаконна прадавала ці здавала ў арэнду ўласнасьць прафсаюзаў. Так, 10 верасьня на сустрэчы з дэлегатамі ад Магілёўскай, Менскай абласьцей і Менску адкрыліся “новыя факты незаконнага продажу і здачы ў арэнду прафсаюзнай уласнасьці прыватным асобам з прамой шкодай для прафсаюзаў. Падымаецца пытаньне пра калектыўную адказнасьць Прэзыдыюму Рады ФПБ за дапушчаныя парушэньні і злоўжываньні”, — гаворыцца ў афіцыйным паведамленьні прэсавай службы ФПБ.

Якія ж факты пацьвярджаюць



“карумпаванасьць” ранейшага кіраўніцтва ФПБ? Найперш — продаж прафсаюзнага банку “Прафбанк”. Заснавальнікамі яго былі 52 прафарганізацыі, аднак цяпер прафсаюзы маюць толькі 2% акцыяў. У Калядзічах была некалі прамысловая база, якую прадалі за мільён даляраў, а куды пайшлі грошы — невядома. Ня скончаны й лягер каля Радашкавіч, дзе меркавалася аздараўляць 500 чарнобыльскіх дзяцей. Ягоныя збудаваньні, паводле інфармацыі БТ, ужо ні на што ня вартыя. Ягчэ сьцьвярджаецца, што былы старшыня Ўладзімер Ганчарык перадаў прадстаўніцтву Ўсеагульнай канфэдэрацыі прафсаюзаў за кошт нявыплачаных унёскаў 180 кв.м. гатэлю “Арбіта” — даччынага прадпрыемства ФПБ.

Працяг на старонцы 13.

# Так казаў Лукашэнка

## *Кроніка выступаў прэзыдэнта перад СМІ — абяцаньні, пагрозы, дэкларацыі*

### 12 ліпеня 1994: мяне патопіце — самі патонеце

Прэзыдэнт Беларусі на першай пасьля абраньня прэсавай канфэрэнцыі кажа: "Ад гэтага моманту прэса можа лічыць сябе свабоднай", прызнае нерэальнасьць аднаўленьня СССР і зьвяртаецца да бізнэс-клясы: "Вы зь мяне выбіваць рэформы, ліцэнзіі і квоты ня будзеце. Калі вы мяне патопіце, дык і самі патонеце".

### 11 лістапада 1994: цэны на месца!

Падчас адпачынку Лукашэнкі ў Сочы падвысіліся цэны. Прэзыдэнт, вярнуўшыся, бачыць у гэтым падкопы апанэнтаў. "Варта было выехаць за межы рэспублікі, як некаму было выгадна ўзьняць цэны. З панядзелка ўсе цэны павінны быць вернутыя на свае месцы". Кіраўнік краіны зьвяртаецца да "так званых камэрсантаў": "Хачу апошні раз папярэдзіць пра тое, што вы прыкладаеце вельмі шмат намаганьняў для дэстабілізацыі эканомікі Рэспублікі Беларусь". Лукашэнка скардзіцца журналістам: "Дэпутаты спрабуюць блякаваць усе рашэньні прэзыдэнта". Адвяргаючы абвінавачаньні ў аўтарытарызьме, ён заяўляе: "Мы ніколі ня скоцімся да дыктатуры".

### 27 сьнежня 1994: ісьцінная мафія

Прэзыдэнт кажа пра эканамічны прагрэс пад яго кіраўніцтвам і разбуральную дзейнасьць БНФ. "У гісторыю я ўвайду такім, якім мяне хоча бачыць беларускі народ... Ісьцінная мафія вырашыла сёньня прыбраць і Лукашэнку, першага беларускага прэзыдэнта, ад улады. Не атрымаецца, шаноўныя спадары! Першы беларускі прэзыдэнт — усур'ёз і надоўга".

### 9 траўня 1995: абяцаю камунізм!

Наконадні Дня перамогі прэзыдэнт спрабуе заваяваць сымпатыі вэтэранаў: "Вы будавалі камунізм, і я вам абяцаю: вы будзеце жыць пры камунізьме".

### 20 лістапада 1995: Рэспубліка ў кольцы!

Прэзыдэнт заяўляе, што Беларусь сталася "каменем спатыкненьня між рознымі дзяржавамі. Рэспубліка ўзятая ў кольца замежнымі спэцслужбамі". І ўнутраныя ворагі зьядналіся ў "барацьбе супраць прэзыдэнта". Як заўжды, перашкаджаюць і дэпутаты: "Дайце нармальна працаваць. Прывыклі тут крычаць ля мікрафона".

### 23 студзеня 1996: кіраўнікоў буду здымаць!

Прэзыдэнт вызначыў штоквартальныя паказьнікі дзейнасьці прамысловасьці і абвесьціў, што, калі нейкае прадпрыемства ня зможа палепшыць вынікі сваёй працы, кіраўнік будзе зьняты з пасады. Першай ахвярай робіцца міністар прамысловасьці Куранкоў.

### 26 лютага 1996: не заслужыў, каб выкінулі

Пасьля пагрозы страйку прадпрыемстваў мікраэлектронікі і машынабудаваньня Лукашэнка "тушыць пажар". Замест мітынгаваньня рэкамэндуе рабочым пісаць на адрас Адміністрацыі прэзыдэнта лісты: "Лукашэнка, мы табе больш не давяраем — думай, дзе ты будзеш працаваць заўтра". Ён прызнаецца, што рабочыя пакрыўдзілі яго, бо "не заслужыў, каб мяне народ выкінуў як скарыстаную анучу". Чаго, маўляў, чакаць ад яго, які толькі "год таму прыняў разьбітую, разваленую, прапітую, прададзеную дзяржаву".

### 20 верасьня 1996: я прэзыдэнт!

Галоўная тэма — падкопы непрыяцеля. Лукашэнка вінаваціць замежных паслоў у імкненьні "прынізіць беларускага прэзыдэнта і ў процівагу падтрымаць асобных дэпутатаў Вярхоўнага Савету".

### 11 сакавіка 1997: саюз з Кітаем

III сэсія міжпарлямэнцкага сходу супольнасьці Беларусі і Расеі. Лукашэнка абвяшчае, што краіны мусяць тэрмінова шукаць рэцэпт процідзеяньня пашырэньню *NATO* на ўсход. Рэцэпт просты: стварэньне блёку Беларусі, Расеі й Кітаю. КНР і Расея пасьля доўга апраўдваюцца перад міжнароднай супольнасьцю, што ў іх няма такіх плянаў.

### 23 траўня 1997: Беларусь ня хоча быць пудзілам

Падпісаньне статуту саюзу Беларусі і Расеі. Прэзыдэнт разважае: "Кожны блёк павінен разумець, што, калі будзе ўзьнікаць якая-небудзь пагроза, будуць і адэкватныя дзеяньні зь іншага боку". Пасьля зьмякчаецца: "Беларусь ня хоча быць пудзілам для Эўропы".





### 7 кастрычніка 1997: даю крымінальнікам 10 дзён

Забойства Мікалуцкага. "Яны доўга падкрадаліся да прэзыдэнта — не атрымалася. Гэта выклік, выклік гэты я прымаю. Ад сёньняшняга дня на тэрыторыі нашай дзяржавы самае дробнае правапарушэньне ці злачынства павінна карацца неадкладна. Я хачу зьвярнуцца да крымінальнікаў: запомніце, панове, зямля будзе курыцца ў вас пад нагамі. Я папярэджваю ўсіх, хто рупіцца на ніве бессаромнай камэрцыі і брудных грошай: у вас 10 дзён, каб разьлічыцца. Праз 10 дзён мы ня будзем шукаць масы доказаў".

### 2 лютага 1998: саюз зь Югаславіяй

Пасьля перамоваў у Бялградзе аб далучэньні Югаславіі да саюзу Беларусі і Расеі А.Лукашэнка паведамляе: "Тое, пра што мы тут дамовіліся, гэта тое самае, што мы маем паміж Беларусяй і Расеяй".

### 23 лютага 1998: вось вам заходняя дэмакратыя

Наведаўшы алімпійскае Нагана. прэзыдэнт дзеліцца ўражаньнямі ад міжнароднага спорту: "На свае вочы бачыў гэтую жудасную несправядлівасьць і мафіёзнасьць... Вось вам і слынная заходняя дэмакратыя, я ў ёй даўно расчараваўся".

### 20 сакавіка 1998: вінаватая апазыцыя

Падае курс рубля. Вінаватая, на думку Лукашэнкі, апазыцыя. "Атака маскоўскага жульля і беларускіх нацыянал-радыкалаў фашыстоўскага толку на эканоміку Беларусі праваліліся". Дзеяньні Нацбанку Лукашэнка лічыць "галавацяпствам і дзікім непрафэсіяналізмам". Пасьля абеду прэзыдэнт выдаляе з залі прэсу і застаецца сам-насам з банкірамі. Пасьля адной з рэплікаў старшыні Нацбанку Алейнікава ён загадвае яму пайсьці ў адстаўку, сьледам пазбыліся пасадаў яшчэ трое.

### 28 траўня 1998: Беларусь нашпігаваная

А.Лукашэнка кажа, што зь ягонай ініцыятывы кіраўніцтва Расеі будзе прадстаўляць беларускія інтарэсы на перамовах з *NATO*. Расеі, паводле ягоных словаў, пашанцавала з хаўрусьнікам, бо "Беларусь нашпігаваная сучаснай вытворчасьцю".

### 15 ліпеня 1998: сьвет нам вінаваты

Візыт у Хойнікі, Нараўлянскі і Петрыкаўскі раёны. "На наш жаль і на вялікае шчасьце ўсяго чалавецтва, яна (Чарнобыльская аварыя) адбылася ўпершыню... Ня нашыя беларусы давялі яе (ЧАЭС) да таго, каб яна ўзарвалася... У цывілізаваным, сапраўды дэмакратычным сьвеце павінна быць нормай гуманнае стаўленьне да пацярпелага не па сваёй віне... Мы маем права патрабаваць сотні мільёнаў даляраў... Міжнародная супольнасьць абавязаная мінімалізаваць наступствы аварыі".

### 17 ліпеня 1998: змова Захаду і апазыцыі

"Міжнародная ізаляцыя Беларусі — частка буйнамаштабнай змовы Захаду, расейскай алігархіі і апазыцыі". Беларускі кіраўнік будуе ланцужок: арышт Шарамета — высяленьне дыпляматаў — акцыя пратэсту прафсаюзаў.

### 22 лютага 1999: ратуем плянэту

Падчас сустрэчы з усходнімі журналістамі агучваецца заява аб магчымасьці стварэньня "магутнага цэнтру — ваенна-палітычнага і эканамічнага", куды апроч Расеі і Беларусі ўвойдуць Кітай, Індыя і Іран. Палітыкі рэгіёну павінны зразумець. "што толькі яны могуць стварыць процівагу сёньняшняму блёку *NATO* і Амэрыцы. Гэта патрэбна не для таго, каб саштурхнуць дзьве сыстэмы ў лоб, а каб выратаваць цывілізацыю, выратаваць плянэту". 24 лютага 1999 г., напярэдадні сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў — удзельніц мытнага зьвязу ў Маскве, прэзыдэнт заяўляе журналістам: "Ядравая зброя можа быць вернутая на тэрыторыю Беларусі, нам трэба думаць аб бясьпецы нашай супольнай Айчыны". Да гэтага падштурхоўвае "набліжэньне *NATO*".

### 10 красавіка 1999: сэлектарныя нарады

А.Лукашэнка праводзіць самую маштабную сэлектарную нараду часоў свайго кіраваньня. "Пасяўная — справа ня толькі эканамічная, але і палітычная. Убаку ад пасяўной не павінен застацца ніхто". Выканаць задачу кіраўнік краіны загадвае "любымі, у тым ліку і недэмакратычнымі мэтадамі. Беларусь павінна цалкам забясьпечыць сябе хлебам".

### 12 красавіка 1999: на Захадзе ўсе працуюць з раніцы да ночы, а калі толькі і да абеду, дык там жа ёсьць вынік

Неўзабаве сканчаюцца паўнамоцтвы Лукашэнкі паводле Канстытуцыі 1994 г. Ганарыцца асаблівa няма чым, але тлумачэньне прэзыдэнт знаходзіць: міністрам перашкаджае апазыцыя. І нагул: "Народ у нас дзіўны — усе хочуць рынку, але ніхто ня ведае, якога. Мабыць, хочуць рынку, каб не працаваць і жыць добра, як на Захадзе. Але на Захадзе ўсе працуюць з раніцы да ночы, а калі толькі і да абеду, дык там жа ёсьць вынік. Трэба растлумачыць, што небагата жывём, але вінавата гэта, гэта і гэта. Але ж мы нічога ня ўкралі, вайну не разьвязалі, краіну не падзялілі". Пры канцы Лукашэнка зьвяртаецца да АБСЭ: "Хіба вам патрэбная нестабільная краіна пасярод Эўропы, нашпігаваная зброяй?"

### 18 кастрычніка 2000: Не было патрэбы фальшаваць

Прэзыдэнт даводзіць сапраўднасьць нікім не прызнаных парлямэнцкіх выбараў: "Не было ніякай патрэбы фальсыфікаваць выбары".

### 30 кастрычніка 2000: скарачэньне арміі

А.Лукашэнка дэкляруе скарачэньне Ўзброеных сілаў: "Вялізарнае войска трымаць у казармах няма патрэбы". У той самы дзень высьвятляецца, што адпаведны артыкул бюджэту на наступны год захаваўся на ранейшым узроўні.

### 19 сьнежня 2000: халодная вайна з Захадам

Лукашэнка кажа пра новы раўнд "халоднай вайны" з Захадам і вінаваціць заходнія ўрады й іхныя менскія пасольствы ў падрыўной дзейнасьці. Згадваюцца замежныя шпіёны, выбухоўка, баевікі... Адзін з асноўных доказаў — падрыхтоўка 14 тысячаў назіральнікаў: "Дзе вы бачылі, каб баевікі адкрыта фінансаваліся ў сьвеце?" "Тры шпіёны затрыманыя, спытайцеся ў МУС і КДБ, колькі выбухоўкі завезена ў Беларусь".

### 18 траўня 2001: дайце даляры мне

Другі ўсебеларускі народны сход: "Захад даў на зьвяржэньне ўлады 800 млн. даляраў. Я ім сказаў: дайце мне гэтыя даляры, і ў вас ня будзе праблемаў у нашай краіне. Вы будзеце нашымі найлепшымі сябрамі". Прэзыдэнт абяцае, што ў бліжэйшыя гады, калі яго пераабяруць, заробак вырасьце да 250 даляраў, а курс даляра ў 2005 г. складзе прыкладна 2000—2100 беларускіх рублёў.

### 31 ліпеня 2001: перавароту не дапушчу

Напружанасьць перад выбарамі расьце: "У краіне рыхтуецца дзяржаўны пераварот — супольна апазыцыяй і Захадам". Прэзыдэнт прызнае, што спэцслужбы падкідаюць яму кампрамат на Мясьніковіча і Ярмошына.

### 8 жніўня 2001: жарты

Перакананы ў перамозе, Лукашэнка жартуе з журналістамі недзяржаўных СМІ: "Пасьля пройгрышу на выбарах зьбягу ў Ізраіль".

### 20 жніўня 2001: душою вясковец

Лірычнае перадвыбарнае адступленьне: "Не пры журналістах будзе сказана, але мая маці кажа мне: "Вось пройдуць прэзыдэнцкія выбары, не абяруць цябе — і дамоў паедзем". Хваліць сваю рэзыдэнцыю ў Драздах. "Гэта добра, што мяне ў лесе пасялілі: у горадзе я ня змог бы жыць. І сыны мае ня могуць у горадзе прыжыцца. Такая ў нас, вяскоўцаў, душа".

### 10 верасьня 2001: нічога немагчымага няма

Пасьля пераабраньня прэзыдэнт дэкляруе, што палітычны і эканамічны курс надалей ня зьменіцца. Камэнтуючы "перадвыбарныя змовы Захаду з апазыцыяй — апэрацыю "Белы бусел", пра якую напярэдадні выбараў лямантавалі дзяржаўныя СМІ, кажа загадкавую фразу: "Белы бусел — наша птушка". Прапануе забыцца "аб усіх спэцапэрацыях, якія былі да ўчорашняга дня". Адказ Лукашэнкі на тэму эканомікі падобны да жарту — "Не было інфляцыі да выбараў, ня будзе і пасьля іх". Прыярытэты вонкавай палітыкі вызначаны так: Расея, СНД, "вялікі Кітай" і Індыя, Эўропа і ЗША. Наконт трэцяга тэрміну Лукашэнка шчыра прызнаецца: "Нічога немагчымага няма".

**Падрыхтаваў Сяргей Рак**

# Курс на аўтарытарызм нязьменны

**Працяг са старонкі 1.**

Адносіны з Захадам: "У бліжэйшай будучыні, як бы гэтага каму ні хацелася, нашыя дачыненьні з Заходняй Эўропай палепшацца". Міжнародны тэрарызм: змагацца трэба ня столькі зь ім, колькі зь беднасьцю, што яго спараджае. Расейска-грузінскі канфлікт: Расея ня пойдзе на распальваньне новай вайны на Каўказе. Прыватызацыя: у каго няма грошай, да нас хадзіць няма чаго. Лябедзька і Нямцоў: "хворыя людзі". "Ніхто мяне ня зьвергне, мяне ўжо восем гадоў зьвяргаюць". Гістарычныя рахункі: Беларусь штогод адлічвала ў саюзны бюджэт СССР 3 млрд. даляраў. Гістарычныя міты: у нас кожны трэці загінуў на вайне, нас за адно гэта сьвет павінен насіць на руках. Зьніклыя палітыкі: нічога новага. Адносіны Беларусі з Іракам: "добрыя", але трохі горшыя, чым з Эміратамі і Бахрэйнам, камісія ААН па "нафце ў абмен на прадукты" тармозіць беларуска-іракцкія кантракты на 300 млн. даляраў. Валютны саюз з Расеяй: нам безь яго не абысьціся, пакуль большая частка гандлю прыходзіцца на ўсходняга суседа, але на ранейшых умовах, бяз шкоды для беларускага суверэнітэту. Аднак "мы гатовыя скарыстацца падтрымкай [Захаду] для прывязкі рубля да эўра або даляра". Расейская праблема: "Вы, расейцы, у Беларусі заўжды будзеце жыць лепей, чым у сябе на радзіме". Пуцін і Касьянаў: тут замест словаў было грэбліва прадэманстраванае апошняе кароткае "пасланьне", атрыманае беларускай адміністрацыяй. Транзыт: Расея нам вінаватая за яго 800—1000 млн. даляраў штогод. Цана вайсковае падтрымкі Расеі з боку Беларусі: 30 млрд. даляраў. Але: "мы будзем вас абараняць, нават калі вы, расейцы, нам на гэта не дасьцё ні капейкі". Прыватызацыя "Белтрансгазу": чаму "Газпрому", а не "Ругазу" ці амэрыканцам? Адносіны зь "сястронкай"-Украінай: у скарачэньні тавараабароту вінаваты ўкраінскі бок, які ўвёў непамерныя падаткі. Адносіны з Польшчай: Польшча – несамастойны гулец на геапалітычнай арэне.

Пасьля бяздарна падрыхтаваных уключэньняў "зь месцаў" прэс-сакратарка прымушае кіраўніка дзяржавы самога зачытваць пытаньні, зададзеныя праз Інтэрнэт. Антырасейскія пытаньні тэлегледачоў.

Па-беларуску да прэзыдэнта першым зьвярнуўся польскі карэспандэнт. Прадстаўнікі беларускае прэсы шпарылі па-расейску. Самі шыльды органаў прэсы былі выкананы зь дзікімі памылкамі: "Жыцце Палесся". "Атлічылася" прадстаўніца беларускамоўнае "Культуры", задаўшы па-расейску, як яна сама выказалася, "маштабнае пытаньне" пра глябалізацыю, культуру і гадаўскі Інтэрнэт. Русіфікаванасьць і неадукаванасьць як крочылі, так і крочаць поруч.



IREX-PROMEDIA

Ключавое пытаньне пад заслону ад упершыню запрошанага на гэткае мерапрыемства радыё "Свабода": ці будзеце балятавацца на трэці тэрмін? "Няма нічога немагчымага". І калі такое рашэньне будзе прынята, яму будзе папярэднічаць рэфэрэндум аб зьменах у Канстытуцыю, якія б дазволілі трэці тэрмін прэзыдэнцтва. "Ні на якія хітрыкі я не пайду, падужэньня паўнамоцтваў праз рэфэрэндум ня будзе".

**Мікола Бугай**

# Лукашэнка жыве ў слове

**Аратарскія здольнасьці Аляксандар Лукашэнка мае несумненныя. А наколькі якасьці публічнага палітыка наўпрост залежаць ад пераканаўчасьці ягоных прамоваў і ўзроўню ўзьдзеяньня на слухачоў, Лукашэнка быў і ўсё яшчэ застаецца ці не найлепшым публічным палітыкам Беларусі. Да 1995 г. зраўнавацца зь ім мог хіба Зянон Пазьняк.**



Я бачыў, як рэагавала на Лукашэнку аўдыторыя яшчэ ў 1994 г. Ужо тады ён быў любімцам хатніх гаспадыняў, паколькі антыкарупцыйны даклад, які адрэдагавалі Васіль Новікаў і Людміла Масьлюкова, прынёс яму сапраўды любоў народу. Але справа ж ня ў тым, *што* ён казаў, а ў тым, *як* ён гэта казаў. Як трымаўся, як пераконваў, як расстаўляў акцэнты. Вось жа, выйшаў праз год на тую ж парлямэнцкую трыбуну Сяргей Антончык — таксама рабацяга, таксама дэпутат, — але ж не прайшло!

Падчас прэзыдэнцкай кампаніі 1994 г. я суправаджаў будучага прэзыдэнта ў дзьвюх паездках — у Гомель і Гародню. У Гомелі ён прамаўляў у памяшканьні крытага стадыёну, разьлічанага на тысячы чатыры гледачоў. На Рыгоравіча прыйшлі паглядзець тысячы паўтары патэнцыйных выбарцаў. Ён стаяў на арэне, перад ім — мікрафон на стойцы, побач — на рагу стала — стос нейкіх папераў. Гадзіна пайшла на маналёг пра беларускую наменклятуру, якая абрабавала ўласны народ, яшчэ дзьве гадзіны занялі адказы на пытаньні. Потым Лукашэнка адышоў ад мікрафона, зьняў пінжак, павесіў яго на сьпінку крэсла і сеў. Сьпіна была мокрай, кашулю можна было выкручваць. А твар — не спакойным нават, а нерухомым, безжыцьцёвым, быццам усе эмоцыі выйшлі з потам. Відаць было, як цяжка працаваў чалавек. Менавіта — працаваў! Гэтак вялікія акторы выкладаюцца перад гледачамі і думаюць, быццам граюць апошні раз у жыцьці.

Але ў яго быў удзячны глядач. І глядач сышоў з трыбунаў, каб дакрануцца да свайго куміра! Гэтак селевая лявіна сыходзіць з гор, каб затапіць даліны. Людзі, здавалася, уставалі з сваіх месцаў і наўпрост, не зьвяртаючы ўвагі на крэслы перад імі, ішлі да арэны. Яшчэ імгненьне — і зьмялі б усё, і Лукашэнку разарвалі б ад любові вялікай і шчырай. Я сядзеў тады за сталом на арэне, побач зь ім, і толькі пасьпеў крыкнуць: "Сьпіну трымайце!". Хлопцы-аўганцы, прыстаўленыя да кандыдата ў прэзыдэнты Гомельскім гаркамам Саюзу моладзі, сталі колам. Лявіна накатвалася павольна, няўмольна, але толькі наблізілася да стала — і ў яе зьявіліся твары, прарэзаліся вочы, усьмешкі. Яны йшлі да Лукашэнкі — як да сьвятога. Як у Марка Блока ў "Каралях-цудатворцах". Божухна, якое ж у нас сярэднявечча, калі гэткае паўтараецца! Людзі працягвалі да яго рукі, каб дакрануцца, дзяцей, каб дакрануўся (блаславіў?), нейкія кніжкі, шматкі паперы, пашпарты, каб пакінуў аўтограф. Адзін падаў стодаляравую купюру — захоўвае ён сёньня гэтую купюру з подпісам галоўнага антыамэрыканіста Эўропы? Колькі каштуе той рарытэт? А колькі ён будзе каштаваць гадоў праз трыццаць? (Аўтограф Чаўшэску на звычайнай паперцы ў маскоўскай букіністычнай краме я бачыў менавіта за сто даляраў.)

Гарадзенцы паставіліся да выступу будучага прэзыдэнта куды больш скептычна. Але трансьляцыю ягонага выступу давялося ладзіць проста на вуліцы перад Палацам культуры тэкстыльнікаў: не атрымалася ўмясьціць у старэнькі будынак ДКТ усіх ахвотных.

Выступ Рыгоравіча будаваўся па той самай схеме, што і ў Гомелі, — прамова, потым адказы на пытаньні. Адказваў, як заўсёды, шматслоўна. Але калі ў Гомелі гаварыў болей аб агульным, дык у Гародні — пераважна пра гарадзенскія рэаліі. Асабліва хапіла памерламу ўжо тады "пану ваяводу", Зьмітру Арцымені, які менш як год таму загінуў ад кулі так і ня знойдзенага забойцы. Адчувалася, што тут Лукашэнка быў спакойны і ўпэўнены ў сабе, бо словы ягоныя падалі ў глебу, добра ўгноеную чуткамі і плёткамі. Праз год, падчас чарговага свайго прыезду ў Гародню, ён папросіць прабачэньня ў сям'і Арцымені — маўляў, быў уведзены ў зман. Але ім было ўжо ўсё роўна, а зь пераможцы — якое спагнаньне?

Памятаю прэс-канфэрэнцыю Лукашэнкі пасьля першага туру выбараў. Ён быў сам прыгнечаны ўласнаю перамогай. Яго выратавала нахабства. Калі ён абвясьціў, што знайсьці прэм'ер-міністра прасцей, чым даярку ў калгасе, сьмяялася толькі прэса. У той момант ледзь ня ўвесь электарат біў у ладкі: вось, вось, так ім! Хіба ж гэта навука — краінай кіраваць! А ў калгас іх, быкам хвасты круціць, кароў даіць, сьвіней карміць! Хопіць, нацараваліся! Лукашэнка стыхійна сфармуляваў галоўную думку мільёнаў выбарцаў: ва ўладзе — зладзеі, гані іх да яснай халеры і кіруй — як Іван Сьвітаньнік, што ажаніўся з царэўнай! Зьдзейсьнілася казка! І Лукашэнка зь ягоным хрыпатым голасам і дзікай трасянкай быў сымбалем гэтай зьдзейсьненай векавой мары. І народ за такім прэзыдэнтам у той момант пайшоў бы куды заўгодна. Сказаў бы — "У рынак!" — і пайшлі б у рынак. Сказаў бы — "У *NATO*" — і пайшлі б у *NATO* шчыльнымі радамі. А загаварыў бы па-беларуску — і прыгадалі б мову матчынай калыханкі і дзедавых прыказак...

Але — не сказаў, не загаварыў. Усе астатнія публічныя выступы былі ўжо толькі гульнёй, спробай падвысіць рэйтынг, зарабіць балы. Хашчавацкі ў сваім фільме ўдала змантаваў кадры з той, першай, прэс-канфэрэнцыі "бацькі" з кадрамі, калі яго перабіваюць рабочыя на заводзе. І прэзыдэнт па-дзіцячаму крыўдуе: "Калі вы мяне перабіваць будзеце, я зьеду!" Зьніклі чары, зьнікла любоў. На зьмену прыйшоў разьлік пэнсіянэраў: "А другі нам у тэрмін пэнсіі плаціць будзе?"

Лукашэнка жыве ў слове. Слова для яго — і натуральная стыхія быцьця, і сродак мадэляваньня рэчаіснасьці; адначасова і галоўны будаўнічы матэрыял, і адзіны магчымы ўчынак. Ён вымаўляе слова — і далей ужо здаецца яму, што сьветабудова зьмяніла сваю прасторава-часавую форму. Памятаеце знакаміты, ад 10 лістапада 1994 г., тэлевыступ: "Цэны, назад!" Гэта Кебічу можна было патлумачыць, чаму "назад" — не атрымаецца. А тут аргумэнт адзін: "Я сказаў? Сказаў!", і далей дзеяньне павінна было разьвівацца у дакладнай адпаведнасьці са сфармуляваным сцэнарам.

Але надыходзіць дзень, калі сплецены са словаў сусьвет пачынае рассыпацца. І дэміюрг гэтага ўсьведамляе, што яго можа засыпаць рэштамі слоўных канструкцыяў. І — што тады? Вымаўленае слова тыражаванае ня толькі ў сьвядомасьці аўдыторыі, што яго чула, але і на кілямэтрах відэа- і аўдыёстужак, на палосах газэтаў. Як быць зь ім? Як сьцерці яго? Бо даецца чалавеку дакладна паводле ягоных спраў. А калі для Лукашэнкі, які абражаў сваімі словамі сотні людзей, надыдзе час адплаты, што будзе — і зь ім, і з намі? Прыгадайце і Карпенку, які нібыта "сарваў узбэцкія бавоўнавыя пастаўкі", і Віньнікаву, "вартую працаваць прыбіральніцай у ашчадкасе", і суперніцаў Лукашэнкі на выбарах, што "прагнуць парохкаць вакол карыта ўлады", якое цяпер шчыльна абступіла атачэньне самога Лукашэнкі.

Аляксандар Ярашук, вельмі слабы палітык, адказваючы на маё пытаньне, заявіў, што ў Лукашэнкі ёсьць яшчэ чатыры гады, каб правесьці эканамічныя рэформы. Лукашэнка ня будзе праводзіць рэформы. Ён баіцца невядомага. Але пабудаваць на грунце новай рыторыкі новую сыстэму палітычных узаемаадносінаў у краіне ён здолее. Бо атрымалася ж: так доўга вымаўляў слова "суверэнітэт", што вывучыў яго значна лепш, чым уся беларуская апазыцыя. Праўда, цяпер апазыцыі трэба вучыць іншыя словы, але і там хапае разумных людзей: вывучаць, Бог дасьць. І ў сьвеце новых, цяпер ужо паважлівых, словаў, якія абумоўліваюць учынкі, знайшлося б месца і самому Лукашэнку — законнае і аб'ектыўна належнае яму месца ў беларускай Гісторыі, а ня тое, якое зьляпілі мы ўсе з дакораў і нянавісьці да яго.

**Аляксандар Фядута**

# Нямеччына перад выбарамі.




**Баварыя — зямля найвышэйшых ацэнак і стэрэатыпаў. Тут самае нізкае ў Нямеччыне беспрацоўе і найбольшыя інвэстыцыі ў навуку ды тэхналёгіі, найменшы працэнт бедных і злачынстваў на душу насельніцтва. Дзеці ў школах вучацца лепш чым дзе, а каманда "Баварыя" — найбагацейшы футбольны клюб у Нямеччыне. У Баварыі так добра, што адпачываць сюды едуць з усяе Нямеччыны — каб налазіцца дасхочу па стромых Альпах, пабачыць славутасьці й музэі, кшталту Ноўшванштайну — казачнага замку звар'яцелага караля Людвіка II — ці мюнхенскай Пінакатэкі. Вечары баварцы бавяць у піўным бары, які незалежныя нямецкія юрысты прызналі часткай баварскай культуры. У Баварыі нібыта не адчуваецца тае шалёнае плыні жыцьця, што віруе за яе межамі: каровы тут ходзяць на папасах, а не адкормліваюцца на буйнапрамысловых фэрмах, жанчыны сядзяць дома і гадуюць дзяцей (колькасьць месцаў у дзіцячых садках і жаночых клюбах найніжэйшая ва ўсёй Нямеччыне), а ў нядзелі і сьвяты людзі ходзяць у касьцёл. Гэта зямля печаных галубоў, бясьпечнага і заможнага жыцьця. Кіруе тут усяўладная, мудрая і зьядналая з народам партыя ХСС. На чале партыі і Баварыі стаіць Эдмунд Штойбэр.**

Ці будзе так выглядаць уся Нямеччына, калі 22 верасьня выбары ў Бундэстаг выйграе ХДС/ХСС і Штойбэр зробіцца канцлерам? Ці сапраўды ў Баварыі ўсё так ладна, як вынікае са статыстычных зводак? У чым таямніца яе посьпеху і наколькі гэта заслуга ХСС?

## Скачок у сучаснасьць

Яшчэ дзесяць гадоў таму тут разьлягаліся палі. Сёньня на гэтым месцы цэнтар сучасных генэтычных, біялягічных і фармацэўтычных тэхналёгіяў. У вёсцы Мартынсрыд пад Мюнхенам некалькі дзясяткаў малых і сярэдніх фірмаў даюць працу больш чым тысячы спэцыялістаў. Канструктарскія бюро, лябараторыі і вытворчыя цэхі яны атрымалі ад уладаў зямлі. Нямецкая прэса падлічыла, што ў пэрспэктыўную біятэхналягічную галіну баварскі ўрад за апошнія дзесяць гадоў упампаваў 41 млн. эўра. Амаль столькі ж даў фэдэральны ўрад. Сёньня ў Мартынсрыдзе не стае плошчы для новых фірмаў. Ня выключана, што неўзабаве тэхналягічны цэнтар паглыне вакольныя вёскі.

Гэта не бяда: сельская гаспадарка нават тут губляе свае пазыцыі. Сёньня ў ёй занята 4% баварцаў, а 50 гадоў таму гэты паказьнік складаў траціну насельніцтва. Пасьля вайны Баварыя была адным з найбяднейшых рэгіёнаў, пазбаўленым карысных выкапняў і энэрганосьбітаў, жалезнай заслонай аддзеленым ад рынкаў збыту і сыравінных базаў ГДР і Чэхаславаччыны. Сёньня баварскія вёскі выконваюць ролю дэкарацыяў для турыстаў, якія прагнуць з камфортам адпачыць на ўлоньні прыроды. 60% баварцаў працуюць у сфэры паслугаў, траціна — у прамысловасьці: машынабудаўнічай, электратэхнічнай, аўтамабільнай, авіяцыйнай.

Першыя пасьляваенныя баварскія ўрады ўзяліся за справу мэтадычна. Каб забясьпечыць зямлю энэргіяй, у 50-я быў пабудаваны нафтаперапрацоўчы завод у Інгальштаце. Потым стаўка была зробленая на атамную энэргію. Парадокс, але менавіта дзякуючы сваёй адсталасьці Баварыя праскочыла фазу традыцыйных вытворчасьцяў — горназдабыўной, мэталюргічнай і хімічнай, на якіх грунтаваўся пасьляваенны заходненямецкі бум. Франц Ёзэф Штраўс, спачатку міністар абароны ў Боне, а потым прэм'ер Баварыі і легендарны старшыня ХСС, сьцягваў пад Дунай авіяцыйную і касьмічную прамысловасьць.

## Кіраванае і субсыдыяванае разьвіцьцё

Баварцы, зачараваныя статыстыкай, пацiху забываюцца, што іхныя посьпехі — ня толькі іхныя. Спрыяла і шчодрая дапамога багацейшых рэгіёнаў Заходняй Нямеччыны. Баварцы спрытна карыстаюцца й сродкамі Эўразьвязу — іхнае "пасольства" ў Брусэлі самае прадстаўнічае на фоне астатніх нямецкіх земляў, і працуюць у ім найлепшыя знаўцы эўрапейскага права.

Прывабнасьці Баварыі спрыяе палітыка яе ўраду — шчодрыя датацыі, разьвіцьцё інфраструктуры, спрошчаныя бюракратычныя працэдуры. Чанг Вон Нам, эканаміст зь мюнхенскага інстытуту *IFO*, які многія гады вывучае рэгіянальную эканамічную палітыку, адзначае: баварскія ўрады ў 80—90-я пасьлядоўна разьвівалі транспартную (аэрапорт у Мюнхене, канал Дунай—Майн) і энэргетычную інфраструктуру, падтрымлівалі дасьледчыя і тэхналягічныя цэнтры, укаранялі іх дасягненьні ў дзейнасьць малых і сярэдніх фірмаў, былі пасярэднікамі ў крызысных сытуацыях паміж фірмамі і крэдыторамі, падтрымлівалі новыя фірмы, асабліва на вёсцы. У 90-я ўрад Эдмунда Штойбэра распачаў "хай-тэх-наступ", плёнам якога сталіся такія тэхналягічныя аазысы, як Мартынсрыд. Мюнхен убухаў у іх усе 8 млрд. эўра даходаў ад прыватызацыі. Аднак посьпех не паўсюдны. Калі ў Мюнхене, Нюрнбэргу і Аўгсбургу інвэстарам цесна, цэны на зямлю і арэнду памяшканьняў падвышаюцца, а працоўную сілу трэба "імпартаваць", дык паўночнаўсходнія абшары Баварыі нагадваюць слабейшыя з постгэдээраўскіх земляў.


"Сын баварскага посьпеху" верыць у сваю перамогу

## Гоф, ці "дзікая поўнач"

Шпацыр па галоўнай вуліцы 50-тысячнага гарадка Гоф на мяжы Баварыі з былой ГДР пакідае цяжкае ўражаньне. На кожным кроку — пустыя крамы і канторы, якія чакаюць уласьнікаў. "Вось ужо год няма ахвотнікаў набыць маю краму, дык я здала вітрыну музэю плюшавых мішак, каб не палохала людзей сваёй пустатой", — гаворыць уладальніца будынку насупраць мэрыі. Ад шэрых дамоў адвальваецца тынкоўка, вялізарны чыгуначны вакзал, збудаваны ў XIX ст., не стасуецца са сьціплым раскладам руху: трэба мець вялікае цярпеньне і трываласьць, каб з Гофу даехаць цягніком да Мюнхену ці Бэрліну.

"Пануе прыгнечанасьць, бо канца крызысу ўсё не відаць", — кажа Кляўс Зыбах, намесьнік дырэктара ўпраўленьня працы ў Гофе. Беспрацоўе тут у два разы вышэйшае, чым у сярэднім па Баварыі.

"Гоф праспаў паўстагодзьдзя, што мінулі пасьля вайны, — лічыць Вальтэр Фрыдль, кіраўнік аддзелу эканомікі мэрыі. — Франконія з Гофам, Вюрцбургам і Нюрнбэргам была перад вайной адзіным прамысловым рэгіёнам Баварыі, тут квітнелі тэкстыльныя і керамічныя фабрыкі. Пасьля Гоф паглыбіўся ў летаргічны сон — аддзелены жалезнай заслонай ад Саксоніі, Цюрынгіі й Чэхіі, ён трымаўся на датацыях з Бону". "Жылося, можа, і не раскошна, але няблага", — кажа пані Штробль, гаспадыня гатэлю. Так няблага, што тутэйшыя прамысловыя магнаты рабілі ўсё, каб не пусьціць сюды канкурэнтаў.

Неабходнасьць зьменаў не была адчутая нават тады, калі ўпала Бэрлінская сьцяна. У Гоф адразу павалілі натоўпы суседзяў з былой ГДР і Чэхіі — на закупы. Як грыбы пасьля дажджу ўзьнікалі шыкоўныя аўтасалёны, гандлёвыя дамы, рэстарацыі. Бум скончыўся праз тры гады. З таго часу гандаль гібее, неканкурэнтаздольныя тэкстыльныя і керамічныя прадпрыемствы звальняюць работнікаў. Чыгунка і пошта, якія ў памежным Гофе мелі вялікія перавалачныя пункты, зьбіраюць манаткі. За апошняе дзесяцігодзьдзе працу тут страцілі 10 тыс. чалавек.

"Мюнхен занадта позна заўважыў, што нам ня хопіць уласных сілаў для разьвіцьця", — кажа бурмістар Гофу, сябар сацыял-дэмакратычнай партыі. Сацыял-дэмакраты перакананыя, што Гоф, якім яны кіруюць, далёкі ад сталіцы зямлі ня толькі геаграфічна, але й палітычна. Штойбэр клапоціцца толькі пра Мюнхен, забываючыся на "далёкую поўнач".

"У Мюнхене трэба бываць, сустракацца зь міністрамі і чыноўнікамі. Бяз гэтага ні туды ні сюды. Наш бурмістар гэтага не рабіў", — сьцьвярджае ўладальнік найстарэйшага бровару ў Гофе Пэтэр Шэрдэль. Аднак нават умяшальніцтва Мюнхену не дапамагло ўгаварыць "БМВ" збудаваць новы завод у Гофе. Канцэрн выбраў Ляйпцыг, хоць Гоф разьмешчаны паблізу трох аўтамагістраляў, мае аэрапорт і вытворчыя традыцыі. "Новым землям дастаецца больш датацыяў, чым нам", — кажа Вальтэр Фрыдль.

Становішча гораду зробіцца яшчэ цяжэйшым, калі ў Эўразьвяз уступяць суседзі-чэхі: Гоф страціць зьвязаўскія датацыі для эканамічна неразьвітых рэгіёнаў. Толькі зь Мюнхену можа прыйсьці дапамога. Усё больш жыхароў сацыял-дэмакратычнага Гофу і акругі аддаюць перавагу ХСС. Бо ХСС — гэта сынонім посьпеху.

## Дужыя, зьядналыя і хуткія

ХСС у Баварыі ўсюды. У кожным павеце і кожным гарадзкім раёне. З 12 млн. баварцаў да ХСС належаць толькі 180 тысяч, але яго ўплыў значна шырэйшы. Сябры ХСС уваходзяць у мясцовыя спартовыя і фальклёрныя клюбы, таварыствы рыбаловаў і аматараў Альпаў, касьцельныя арганізацыі, хоры і аркестры, добраахвотныя пажарныя дружыны. 85% сяброў ХСС — мужчыны. Сярод мясцовых "шышак" заўсёды знойдзецца дзяяч ХСС. Дзякуючы гэтаму партыя добра ведае, адкуль вецер дзьме.

Амаль 40 гадоў ХСС непадзельна кіруе зямлёй. Гэты выключны для Нямеччыны цэнтралізм — яшчэ адна вартасьць Баварыі ў вачах інвэстараў.

"Калі Мюнхен кажа, што лічыць пэрспэктыўнымі генэтычныя тэхналёгіі, дык на ніжэйшых узроўнях гэтага ніхто нават не абмяркоўвае, паветы хутка ажыцьцяўляюць тое, што пастанавілі ў сталіцы, — гаворыць Міхаэль Гізэ, кіраўнік *"Eucatech AG"* у *"Bad Kissingen"*, якая вырабляе кардыялягічнае абсталяваньне. — На першых этапах існаваньня фірмы хуткасьць выкананьня адміністрацыйных працэдур мае велізарнае значэньне. У Баварыі яны выконваюцца найхутчэй".

Эба-Карына Зандэр, мэнэджэрка, якая спэцыялізуецца ў мэдыцыне, сьцьвярджае, што палітыкі ХСС і чыноўнікі адчувальныя да аргумэнту "гэта будзе добра для Баварыі". "Я часта маю стасункі зь Міністэрствам сацыяльных спраў у Мюнхене, — расказвае Зандэр. — Гэта сучасны орган кіраваньня, які паводзіць сябе як партнэр бізнэсу і гараджанаў. Папярэдняя міністарка Барбара Штам неаднаразова публічна казала супрацоўнікам: "Не жадаю чуць пярэчаньні — толькі ідэі, як дасягнуць мэты".

"Дыскусіі ў ХСС адбываюцца, але яны праходзяць за зачыненымі дзьвярыма", — кажа прафэсар Альф Мінтцэль, аўтар шматлікіх кніг пра гэтую партыю. "Даходзіць да вострых спрэчак, напрыклад, паміж сельскагаспадарчым і экалягічным лобі, паміж палітыкамі, зьвязанымі з дробным прадпрымальніцтвам і прафсаюзамі, — кажа Алёіс Глюк, кіраўнік прадстаўніцтва ХСС у баварскім ляндтагу. — Але няма ў нас фракцый, "партый у партыі", максымум "рабочыя групы" па канкрэтных тэмах і задачах". "Няспынна адбываюцца сустрэчы і канфэрэнцыі дзеячаў розных узроўняў, на

# Баварыя і ХСС




якіх дырэктывы "вярхоў" перадаюцца ўніз, а меркаваньні "нізоў" — угару, — кажа прафэсар Мінтцэль. — Зьезды ХСС гэтыя добра абмеркаваныя пастановы толькі зацьвярджаюць".

### "Amigos" ХСС

Ці трэба быць у ХСС, каб зрабіць кар'еру ў Баварыі? Алёіс Глюк адмаўляе гэта, але Сюзана Бідэфэльд, генэральная сакратарка баварскай СДП, сьцьвярджае, што сацыял-дэмакратаў на самы верх не пускаюць. Прафэсар Мінтцэль падсумоўвае: "Баварыя — гэта ня Аўстрыя, на падзел партфэляў не ўплывае партыйная прыналежнасьць, але найвышэйшыя чыноўнікі альбо сябры ХСС, альбо ляяльныя да яе". "Баварскі цуд", удалая трансфармацыя рэгіёну на працягу жыцьця менш чым двух пакаленьняў, быў магчымы дзякуючы цеснаму супрацоўніцтву элітаў. Гэта, аднак, нараджае пагрозу карупцыі, асабліва з той прычыны, што ў Баварыі апазыцыя слабая.

Да сёньня ўсе памятаюць афэру "*Amigo*" пачатку 90-х, ахвярай якой стаўся прэм'ер Макс Штрабль. Вялося пра паездкі ўрадоўцаў з ХСС на шыкоўных лімузынах за кошт "сяброў" з эканамічных колаў.

Калі сёлета ўвесну банкрутаваў мюнхенскі тэлеканцэрн Лео Кірха, абмяркоўвалі, ці не пагражае гэта Штойбэру. Кажуць, яны мелі цесныя кантакты — Штойбэр тры гады таму пераконваў Рупэрта Мэрдака ўкласьці інвэстыцыі ў платнае тэлебачаньне Кірха, каб Мюнхен і надалей быў нямецкай сталіцай тэлебізнэсу. Самы буйны Кірхаў крэдытор — напаўдзяржаўны Баварскі рэгіянальны банк. З гэтай калізіі Штойбэр выйшаў пераможцам: не было знойдзена доказаў якіх-небудзь парушэньняў закону зь яго боку.

### Паміж традыцыяй, Касьцёлам і выгнанцамі

Стэрэатыпны баварац — селянін-гураль, але сапраўдная Баварыя — краіна зусім не аднародная з сацыяльнага і рэлігійнага пункту гледжаньня. Уласна Баварыя — каталіцкая, а вось Франконія, Швабія і таксама "чацьвёртае племя" Баварыі — судэцкія немцы, выгнаныя пасьля вайны з Чэхаславакіі, належаць як да каталіцкага касьцёлу, так і да пратэстанцкіх цэркваў. ХСС удалося зьяднаць гэтыя разнародныя рэгіёны ў адзіны арганізм. "Гэта з самага пачатку была сьвядомая палітыка: супрацоўніцтва з элітамі бізнэсу і касьцёлу, суцішэньне канфліктаў датацыямі, культываваньне інстытуту традыцыйнай сям'і як апірышча ў часе пераменаў, умелае выкарыстаньне баварскага сэпаратызму", — кажа прафэсар Мінтцэль. "Хоць урад захаваў эканамічную структуру, заснаваную на сямейных гаспадарках і дробных фірмах, ён заўсёды быў адкрыты для прагрэсу", — кажа Ёган Шахтнэр зь Міністэрства эканомікі. Адсюль неафіцыйны дэвіз: "Спалучаем ноўтбукі і скураныя гуральскія порткі".

Прэм'ер Штойбэр кажа: "Баварыя старэйшая за Нямеччыну". Баварцы ўсяляк падкрэсьліваюць сваё непадабенства і непрыязнасьць да "прусаў" з поўначы. Пасьля вайны Баварыя была адзіным рэгіёнам, межы якога не зьмяняліся. Гэтая выключная для Нямеччыны кансэрватыўнасьць і трапяткое стаўленьне да аўтаноміі (ад фальклёру да асобнай Баварскай акадэміі навук) прывялі Баварыю да бунту супраць заходненямецкай канстытуцыі ў 1949 г. "ХСС лічыла, што ў земляў замала правоў, — гаворыць А.Мінтцэль. — Урэшце баварскі ляндтаг дасягнуў палітычнага кампрамісу: калі канстытуцыя пройдзе ў дзьвюх трацінах земляў, яе прызнаюць і ў Баварыі".

Гэтакае ж неадназначнае супрацоўніцтва ХСС і з Каталіцкім касьцёлам, да якога належаць дзьве траціны баварцаў. У сапраўднасьці 80% сяброў партыі — каталікі, але, як падкрэсьлівае Мінтцэль, нельга казаць пра клерыкалізм ХСС. Калі партыі выгадна, яна ўздымаецца на абарону Касьцёлу і рэлігіі, як у выпадку барацьбы супраць абортаў. З другога боку, ХСС — радыкальны абаронца біямэдычных тэхналёгіяў, у тым ліку экспэрымэнтаў на эмбрыёнах з тэрапэўтычнымі мэтамі, якія Касьцёл забараняе.

ХСС апякуецца зямляцтвам судэцкіх немцаў. Лідэры партыі штогод наведваюць іхныя зьезды, выдзяляюць сродкі на падтрымку іх культурных традыцыяў, падзяляюць іх патрабаваньні — каб чэхі адмянілі дэкрэты Бэнэша і выплацілі выгнаньнікам кампэнсацыю, — не зважаючы на тое, што іхныя дзеяньні наносяць палітычную шкоду Нямеччыне на міжнароднай арэне. Да нядаўняга часу ад гэтай лініі ХСС дыстанцыяваўся агульнанямецкі ХДС, аднак цяпер пункт аб ажыцьцяўленьні "права на радзіму" ўвайшоў у супольную праграму абедзьвюх партыяў.

### Посьпех, якога не скапіюеш

Пад кансэрватыўнай вопраткай схавана, аднак, вельмі сучасная палітыка. "ХСС часта агучвае антыдэмакратычныя лёзунгі, але ў сапраўднасьці ажыцьцяўляе прамысловую рэвалюцыю", — кажа прафэсар Мінтцэль. ХСС прышчапіў баварцам упэўненасьць, што "наша — значыць найлепшае", з дапамогай ланцужка асацыяцыяў: "Баварыя — Штраўс (сёньня Штойбэр) — сучаснасьць — посьпех". Партыя ня грэбавала папулізмам. На думку Мінтцэля, гэта было "цэмэнтам для няўстойлівага, неаднароднага і поўнага стоеных канфліктаў грамадзтва ў пэрыяд пералому". Баварскі варыянт папулізму ня варта атаясамліваць з правай дэмагогіяй кшталту лепэнаўскай, хоць ХСС не цураецца лёзунгаў, афарбаваных ксэнафобіяй (так, у 99-м саюз ініцыяваў збор подпісаў супраць падвойнага грамадзянства; шмат хто пытаўся тады: "Дзе можна падпісацца супраць іншаземцаў?"). Алёіс Глюк сьцьвярджае, што гэта не папулізм — проста ХСС блізкі да грамадзтва і яго хвалююць праблемы людзей. "Дзякуючы гэтаму мы пазьбеглі росквіту такіх груповак, як Гайдэрава ў Аўстрыі, — пераконвае сп.Глюк. — Калі цэнтрысцкія партыі не наважваюцца казаць пра тое, што турбуе людзей, такія плыні пашыраюцца. Мы называем сваім імем праблемы, зьвязаныя, напрыклад, з іміграцыяй".

Ці зможа Эдмунд Штойбэр, які ўсё сваё палітычнае жыцьцё прысьвяціў ХСС, перанесьці гэты багаж досьведу і посьпехаў у Бэрлін, калі зробіцца канцлерам? Нямеччына больш неаднародная за Баварыю, ва ўрадзе і Бундэстагу сутыкаюцца шматлікія інтарэсы. Тут у Штойбэра ня будуць разьвязаны рукі, як у Баварыі: урадавая кааліцыя непазьбежная, бо хрысьціянскія дэмакраты ня маюць шанцаў узяць на выбарах 50% галасоў. "Бацька баварскага посьпеху" — такі вобраз ён паклаў у аснову перадвыбарнай кампаніі, але гэты грунт можа хутка вычарпацца, бо фэдэральны бюджэт у даўгах і няма адкуль узяць датацыі. Ня ўдасца таксама паўтарыць баварскі "тэхналягічны наступ" у маштабах усёй Нямеччыны. "Гэтую мадэль папросту нельга перанесьці адзін у адзін, напрыклад, на былую ГДР", — лічыць Сюзана Бідэфэльд. Бо "прусы" проста іншыя.

**Ганна Рубіновіч, *"Gazeta Wyborcza"***

# Расею выкідаюць з Каўказу

**Працяг са старонкі 1.**

На стамбульскім саміце АБСЭ (лістапад 1999 г.) Расея была вымушаная ў абмен на заходнія інвэстыцыі пагадзіцца на вывад войскаў з тэрыторыі Грузіі — з базаў у Вазіяні й Ахалкалакі. Адначасова было прынятае рашэньне пра пабудову трубаправоду Баку—Джэйхан, які зьвязаў бы багатыя нафтавыя і газавыя радовішчы Касьпію з турэцкімі партамі. Гэта кардынальна зьмяняла геапалітычны расклад на поўдні СНД: багатыя нафтай і газам Казахстан, Туркмэнія й Азэрбайджан выходзілі на заходні рынак у абход Расеі.

Тое, што касьпійскія энэрганосьбіты йшлі на Захад праз расейскія трубаправоды, давала Маскве вялікія транзытныя грошы й дазваляла дыктаваць умовы паўднёвым краінам СНД.

Галоўнымі інвэстарамі будаўніцтва выступалі ЗША. Сарваць рэалізацыю гэтага праекту Расея магла, толькі стварыўшы пояс ізаляцыі — праз захаваньне кантролю над Арменіяй і ўсталяваньне ў Грузіі прарасейскага рэжыму альбо, як мінімум, дэстабілізацыю там палітычнай сытуацыі.

Плян другой чачэнскай кампаніі прадугледжваў выцісканьне часткі ўзброеных чачэнцаў спачатку ў горы, а потым — на поўнач Грузіі.

Пры Пуціну, у 2000 г., Расея паспрабавала "дацiснуць" Грузію. У адносінах да яе, адзінай з краінаў СНД, быў уведзены візавы рэжым. З Абхазіяй і Паўднёвай Асеціяй Расея захавала адкрытыя межы. Прадстаўнікі Крамля заяўлялі, што візавы рэжым дазволіць Расеі стварыць заслону для тэрарыстаў, якія з Грузіі вольна пераходзілі ў Чачэнію. Сапраўднай мэтай акцыі было стварэньне перашкоды для грузінаў, што зараблялі ў Расеі, каб праз гэта пагоршыць сацыяльна-эканамічную сытуацыю ў Грузіі. Увядзеньне візавага рэжыму "супала" зь перапынкамі ў пастаўках у Грузію расейскіх энэрганосьбітаў. Усё гэта мусіла выклікаць замену хворага Э.Шэварднадзэ на прарасейскага палітыка М.Геаргадзэ.




Але візавы рэжым не стварыў перашкодаў для тых, ад каго хацела абараніцца Расея (за 200 даляраў і болей візавыя праблемы вырашаюцца тут вельмі хутка), наадварот, настроіў супраць яе люмпэнізаваных грузінскіх жыхароў, што былі носьбітамі прарасейскіх настрояў.

Актыўныя спробы Расеі ўмяшацца ва ўнутраныя справы Грузіі змусілі Тбілісі да контракцыяў. Адным з чыньнікаў уплыву на палітыку Пуціна для Грузіі сталіся чачэнскія партызаны. Пакуль Расея будзе спрыяць сэпаратызму Абхазіі і Паўднёвай Асеціі, Грузія будзе пасіўна падтрымліваць чачэнскіх паўстанцаў.

У 2000 — 2001 г. грузінскае кіраўніцтва дэ-факта дало аўтаномію чачэнцам, што атабарыліся ў Панкіскай цясьніне на поўначы Грузіі. Улада ў Панкісі перайшла да лідэраў чачэнскіх партызанаў. Але страта кантролю над Панкісі была вымушанай для Тбілісі, што пераадольваў унутрыпалітычную нестабільнасьць і эканамічны крызыс. Дый чачэнскія паўстанцы мелі значна вышэйшую ступень баяздольнасьці за жаўнераў грузінскага войска.

У выніку чачэнскія палявыя камандзіры пачалі злоўжываць становішчам. Захоп заложнікаў, гандаль зброяй і наркотыкамі сталі прычынай таго, што ў суседніх з Панкісі раёнах Грузіі пачалі фармавацца непадкантрольныя ўладам узброеныя аддзелы самаабароны.

У 2002 г. грузінская ўлада вырашыла вярнуць кантроль над Панкісі. Пры гэтым стаўленьне да чачэнскіх партызанаў зьмяніцца ня мусіла. Толькі самыя адыёзныя ваяры былі прыцягнутыя да крымінальнай адказнасьці. Грузінскія войскі, што павольна зьмянялі дысьлякацыю ў бок мяжы з Расеяй, відавочна, маючы загад кіраўніцтва, "не знаходзілі" чачэнскіх аддзелаў і нават іх былых базаў.

Абстрэл расейскай авіяцыяй грузінскай тэрыторыі 23 жніўня, у выніку якога загінуў грамадзянін Грузіі Гурам Атыяшвілі, даў старт антытэрарыстычнай апэрацыі, на якой даўно настойвала Масква. Часьці грузінскіх войскаў хутка высунуліся да мяжы з Расеяй і, як заўжды, чачэнскіх партызанаў не адшукалі. Нічога дзіўнага — антытэрарыстычная апэрацыя, абвешчаная Тбілісі супраць чачэнскіх фармаваньняў, насамрэч накіраваная супраць Расеі. Самыя баяздольныя часьці грузінаў (Паційскі батальён марской пяхоты) высунуліся на інгушэцкі, а не на чачэнскі ўчастак грузіна-расейскай мяжы. Другая элітная часьць — 11-я мотапяхотная брыгада — накіраваная на мяжу прарасейска настроенай Паўднёвай Асеціі.

Вайсковае прызначэньне манэўру грузінскіх войскаў — усталяваць кантроль за паветранай прасторай у раёне мяжы з Расеяй. Грузія мае толькі 5 баявых самалётаў Су-25, таму супрацьстаяць самалётам праціўніка будзе з дапамогай пераносных ракетных комплексаў "Страла" й "Іголка" расейскай вытворчасьці. Нямала такіх комплексаў грузіны і чачэнцы атрымалі ад расейскіх вайскоўцаў, калі з Вазіяні выводзілася іхная дывізія.

Дыпляматычныя і інфармацыйныя напады Расеі ня могуць вярнуць ёй мінулых геапалітычных пазыцыяў. За плячыма Тбілісі стаіць Вашынгтон. У апошнія чатыры гады амэрыканская дапамога праграме рэфармаваньня грузінскай арміі склала 280 млн. даляраў. 30 млн. за апошнія два гады ўклала ў падвышэньне абараназдольнасьці Грузіі Турцыя. Цяпер недалёка ад Тбілісі, у Ялгуджы, пад кіраўніцтвам амэрыканскіх інструктараў праходзяць падрыхтоўку грузінскія сілы спэцпрызначэньня. У гэты праект ЗША ўклалі 4 млн. даляраў.

Злучаныя Штаты жорстка раскрытыкавалі абстрэл расейскай авіяцыяй грузінскай тэрыторыі. Прадстаўнікі амэрыканскай адміністрацыі назвалі гэтую акцыю спалучэньнем хлусьні расейскіх дыпляматаў і непрафэсіяналізму расейскіх вайскоўцаў.



За плячыма Шэварднадзэ стаіць Вашынгтон

ДзяржДэпартамэнт ЗША выступае супраць аднабаковых вайсковых акцыяў Расеі ў Панкісі. Ён, у адказ на заяву У.Пуціна ад 11 верасьня, абвясьціў, што сувязь паміж чачэнскімі партызанамі і Аль-Кайдай не даказаная. Захад зацікаўлены ў паўстанцкім руху ў Чачэніі: неспакой на поўдні Расеі сьведчыць, што праект Баку—Джэйхан ня мае альтэрнатывы.

**Андрэй Ляховіч**

# Васілёва сястра



“Мілая... Дарагая... Родная...” Паштоўкі і лісты ад Васіля да малодшай і адзінай сястры заўсёды пачынаюцца кранальна. Акрамя брата ў Валянціны цяпер нікога няма.

Але пошта да сястры ідзе не ў Бычкі, адкуль род Быкавых, а ў вёску Ваўчо, куды Валянціна гадоў трыццаць таму выйшла замуж. Пры дачцэ дажывала свой век старэнькая маці Васіля і Валянціны — Ганна Быкава. І знакаміты фатаздымак пісьменьніка з маці Валянцін Ждановіч зрабіў не ў Бычках, а менавіта ў доме сястры.

Сёлета Валянціна рана капала бульбу — яшчэ ў сярэдзіне жніўня. Я якраз і засьпеў яе на прысядзібным бульбяным гародчыку.

— Гаспадаркі ня маю, шмат бульбы мне ня трэба, — расказвае кабета, зьбіраючы прасушаныя бульбіны.

Жыцьцё Валянціны — нібы тое люстэрка лёсаў тысяч вушацкіх жанчын, на дзяцінства і маладосьць якіх прыпала вайна.

— У партызаншчыну я была дома. А Васіль недзе ваяваў. Жывы ён ці забіты — ніхто ня ведаў, — згадвае яна. Партызаны забралі каня і карову. Потым была блякада, і тысячы дзяўчат немцы сагналі ў лягер у вёсцы Ухвішча. Прымушалі рыць акопы, а пасьля пагналі ў Плісу, каб вывезьці ў Нямеччыну. Двойчы Валя ўцякала з-пад аховы. Першы раз папалася — дык ледзь не забілі. Кажа, цяпер нізавошта не адважылася б на гэткі сьмелы ўчынак.

Па вайне давялося Валянціне пабыць у Нямеччыне — “вандравала” па статак кароў. Улады агітавалі: хто прыгоніць быдла, атрымае бясплатна дойную рагулю. Бацька не пускаў Валі, баяўся, што прападзе. Дый адчуваў, што камуністы ашукаюць. Але тая, змовіўшыся зь сяброўкамі, зьехала. Цэлыя тры месяцы яны гналі статак дахаты. Але потым горка-горка плакалі ад крыўды, нічога не атрымаўшы за нялёгкую працу.

Усю вайну ад Васіля нічога не было чуваць. Толькі ў 1944-м прыйшоў ліст. Але хутка зноў пастукаўся паштальён — з казённым армейскім канвэртам-пахаванкаю. Валянціна першаю яе прачытала, але бацькам не сказала. Шмат разоў глядзела то першы ліст, то паведамленьне, пакуль не пабачыла, што пахаванка была адпраўленая раней, чым ліст (пра гэта сьведчыў штамп), а прыйшла пазьней. А потым сталі прыходзіць усе Васілёвы лісты, напісаныя ў пачатку вайны, што не даходзілі да акупаваных Вушачаў.

Першай спаткала пасьля вайны свайго брата менавіта яна — Валянціна. Працавала ўжо ў Падсьвільлі, калі Васіль вяртаўся на радзіму і па дарозе да бацькоў найперш заехаў да яе. Завёў сястру ў сталоўку, добра накарміў. Потым паехалі ў Бычкі. Была зіма, маразы, і, каб не Васілёў падарунак — вайсковыя боты, ёй прыйшлося б цяжка.

Цяпер да Бычкоў хоць бокам кацiся — асфальт, гравейка, зноў асфальт. Мы ехалі сапраўднаю камандаю: апроч Валянціны быў Рыгор Барадулін ды яго ўнучка Дамініка. І яна, і я на радзіму Васіля Быкава трапілі ўпершыню. Чамусьці падалося, што вёска схіленая долу. Ніводнай сучаснай пабудовы. Не відно людзей. Сядзіба Быкавых, як і тысячы вушацкіх сядзіб, без гаспадароў.

Сустрэлі Сымона Быкава — суседа і сябра Васіля — вёз на кані бульбу з поля. Пакуль гаварылі, яго жонка прынесла Барадуліну слоік сёлетняга мёду. Потым Валянціна павяла нас да колішняй пачатковай школы. Цяпер у гэтай хаце жыве цётка Тацяна — нявестка Быкавых. Колькі гадоў таму памёр яе муж Мікалай — родны брат Васіля і Валянціны. У хаце, навідавоку, — партрэт маладога, яшчэ пры пагонах Быкава.

**Анатоль Кляшчук**
**Фота аўтара**

Каля магілы маці



Дарога да хаты



З суседам і сябрам Васіля Быкава Сымонам Быкавым



Сёлета Валянціна рана капала бульбу



Цётка Тацяна трымае партрэт маладога Быкава

# Калі б не прыйшоў я?

**Жаданьне захаваць сябе штурхнула беларускую ўладу на нацыянальныя пазыцыі. Збалянсаваная за восем гадоў сыстэма падзелу на "нашых" і "немцаў" раптам абрынулася: у дэмакратычным лягеры гучаць галасы ў падтрымку незалежніка Лукашэнкі, апазыцыйныя палітыкі хочуць саюзу з Расеяй. Лукашэнка — геній моманту. Але ці ўсур'ёз і ці надоўга прыйшоў гэты момант? Ці можна верыць у патрыятычныя памкненьні ўлады, якая шматкроць засьведчыла сваю антыбеларускасьць? Героі гэтага матэрыялу ня раз пыталіся пра гэта ў сябе. Яны — інтэлігенты-незалежнікі, што за апошнія месяцы перайшлі на працу ў дзяржаўныя мас-мэдыя.**

## Леанід Галубовіч

Самы цікавы прыклад — **Леанід Галубовіч**. Колькі месяцаў таму ён гучна сышоў з "Крыніцы", пратэстуючы супраць утварэньня холдынгу. А нядаўна падаўся працаваць у "ЛіМ", які ўваходзіць у той самы холдынг.

Л.Галубовіч мяркуе, што ягоны сыход з "Крыніцы" ня быў дарэмным: "Сысьці адтуль я зьбіраўся даўно: творчаму чалавеку нельга доўга працаваць на адным месцы, атрымліваецца застой". А прыход у "ЛіМ" ён тлумачыць неабходнасьцю працаваць на карысьць Бацькаўшчыны ва ўсякіх умовах: "У мяне быў час падумаць — цэлыя тры месяцы. Вядома, мяне можна вінаваціць у штрэйкбрэхерстве. Маўляў, ці варта было так шумець, сыходзячы, рабіць такія заявы... Але не прыйшоў бы я ў "ЛіМ" — прыйшоў бы які Іван бязродны. Хіба гэта было б лепш? Трэба захаваць Беларусь. Вось жа і пад камуністамі яна неяк існавала, хоць яны і цiснулі ўсяляк. Яна была тады, і таму мы і сёньня маем краіну".



АН ДРЭЙ ЧЫК

Леанід Галубовіч

Ці апошнія скандалы ў беларуска-расейскіх дачыненьнях паўплывалі на выбар Л.Галубовіча? Ён кажа, што ўплыў быў, але не вырашальны: "Я заўжды вельмі высока ацэньваў Лукашэнку. Я сышоў з тэлевізіі, калі ён прыйшоў да ўлады. Бо быў супраць ягоных нападак на нашыя сымбалі, на мову, на ўсё нацыянальнае. Але пасьля, як не атрымаўся ў яго "бліцкрыг" з паходам на крамлёўскае крэсла, Лукашэнка заняў вельмі незалежніцкую позу. Не скажу, што беларускую, але — незалежніцкую. І як бы там ні было, ён бароніць нашую краіну, нашую незалежнасьць. Ён вельмі самастойна паводзіцца ў размовах з Масквой. Ні Шушкевіч, ні Кебіч, ні нават Машэраў такога сабе не дазвалялі".

## Віктар Корбут



Віктар Корбут

Падобнымі палітычнымі матывамі тлумачыць свой прыход у "*Советскую Белоруссию*" і былы супрацоўнік радыё "Рацыя" **Віктар Корбут**: "У нас ёсьць беларуская дзяржава. І ўсе мы мусім працаваць на яе ўмацаваньне, на тое, каб яна і звонку, і ўнутры была беларускай.

Я спрабую выкласьці такі кантэкст беларускай культуры, які ніхто ў "*Советской Белоруссии*" не выкладаў. Бо гэтая газэта мае наклад 300 тыс. асобнікаў і разыходзіцца па ўсёй Беларусі. У беларускай дзяржаве ўсё беларускае мусіць успрымацца нармальна. І я бачу сваім заданьнем зрабіць беларускую культуру нармальнай, звычайнай у вачох усіх грамадзянаў нашай краіны".

## Людміла Рублеўская

**Людміла Рублеўская** на сталую працу ў "*Советскую Белоруссию*" не перайшла, хоць прапаноўвалі. Асноўнай прычынай зьяўленьня ейных артыкулаў у "*СБ*" было безграшоўе: "Амаль паўгоду нам не плацілі заробкаў, і я вырашыла паўдзельнічаць у сумесным праекце "*Советской Белоруссии*" і "*Российской газеты*". Напісала агляд сучаснай беларускай літаратуры, і ён быў апублікаваны. Пасьля гэтага мне прапанавалі весьці рубрыку. Я не працую ні на стаўку, ні на кантракце — атрымліваю звычайныя ганарары".



АН ДРЭЙ ЧЫК

Людміла Рублеўская

Л.Рублеўская лічыць сваё супрацоўніцтва з "*Советской Белоруссией*" карысным для беларускай літаратуры: "Прапаганда літаратуры павінна весьціся ў вялікіх маштабах. Так мы варымся ва ўласным саку, а "*Советскую Белоруссию*" чытаюць 500 тыс. беларусаў. І далёка ня ўсе зь іх беларусафобы. Шырокі чытач мала ведае пра беларускую літаратуру і беларушчыну. І я бачу сваёй задачай увесьці ў кантэкст "*Советской Белоруссии*" беларушчыну. Бо трэба пераадольваць нашае традыцыйнае сэктанцтва".

## Мяжа сумленьня

Прыход у новае асяродзьдзе вымагае ад герояў нашага расказу патлумачыць сваю пазыцыю ня толькі сабе, але і блізкім, а нават і чужым. Л.Рублеўская ўсьведамляе хісткасьць сваёй пазыцыі: "Кожны сам вырашае, дзе знаходзіцца тая мяжа сумленьня, якую нельга пераступаць. Я адчуваю, што знаходжуся блізка каля тае мяжы, але, відаць, яшчэ не пераступіла... Пакуль не прыйшла сюды, я нават не чытала "*Советскую Белоруссию*". Але цяпер магу сказаць, што тут вельмі высокі ўзровень журналістыкі. Нават з цэнзурай я тут пакуль не сутыкалася: усё, што напісала, было надрукавана. У першым аглядзе я згадала Славаміра Адамовіча — і гэта не было выкрасьлена. Трэба знайсьці сваю нішу і сумленна рабіць сваю справу. Я не раблю нешта адрознае ад таго, чым займалася раней, — проста ў мяне зьмянілася аўдыторыя".

Больш спакойна глядзіць у вочы блізкім В.Корбут: "Усе мае сябры ўспрынялі мой выбар станоўча альбо спакойна. Меркаваньні ж далёкіх знаёмых, а тым больш непрыяцеляў мяне не закранаюць. Я ведаю, што галоўнае — заставацца сумленным чалавекам і ня здраджваць самому сабе і сваім прынцыпам. У рэдакцыі я размаўляю па-беларуску — усе гэта ўспрымаюць нармалёва. Я не лічу, што працую ў адыёзнай газэце. Адыёзнасьць — у якім-небудзь "*Славянском набате*" альбо "Навінках". А "*Советская Белоруссия*" — салідная газэта, якая трымае прыстойны ўзровень".

Л.Галубовічу было прасьцей за Л.Рублеўскую і В.Корбута: ён прыйшоў у "ЛіМ" — пісьменьніцкую газэту. Аднак наўрад ці ён будзе пачуваць сябе ўтульна — вось ужо яго вымусілі падпісацца пад зьвягой на адрас Васіля Быкава. Але здавацца Л.Галубовіч не зьбіраецца: "Буду пісаць як магу — глядзіш, і праб'ю гэты мур". Мур прабіць можна. Але ці можна прабіць бруд?

**Аркадзь Шанскі**

---

**Наталка Бабіна**

# Новая восень

**Насуперак верасьнёўскай традыцыі, не з баразны, а з гары падзівімся на новую восень. Бо адсюль відаць ня тое, што бачым звычайна.**

Дзявочая Горка ля вёскі Дубрава, стромкая і высокая, проста як на Каўказе, — мэта нашага паходу. Мы прыйшлі сюды пешшу ў цёплай кампаніі, пакінуўшы машыны адпачываць на лецішчы. Дарога ляжала праз прыгажэнныя пагоркі і лугі, спаскуджаныя ўсюдыіснымі плястыкавымі бутэлькамі, паўз маляўнічыя хутарцы пад дубамі, а потым праз вёску Дубрава: вул.Дыбоўскага ("Заоляг з сусьветнай вядомасьцю, нарадзіўся паблізу, на хутары Адамарын"), потым вул.Касьцельная.

"Касьцельная" прывяла да былога касьцёлу: руіны, трагічныя ў сваёй велічы, з калёнамі, што падпіраюць неба, са старой-старой магілай ("*And... Paszkievicz... zmarły... 1862...*") і, як заўжды ў такіх месцах, з купай лайна пасярэдзіне... Ля самай сьцяны прытулілася яблыня-дзічка. Царкву ў Дубраве нядаўна пабудавалі, а касьцёл, ясна, не адбудаваны.

Паколькі старая вуліца, што ішла ад касьцёлу, называлася "вул.Дзявочая Горка", мы зразумелі, што ідзём правільна.

На вяршыні, пакуль дзеці шукаюць "каля дваццаці курганаў другой паловы XI ст., у якіх знойдзена адзінаццаць жаночых і адно мужчынскае пахаваньне", я з асалодай прысядаю на плахту і выцягваю ногі — усе чатыры кілямэтры шляху Томця праехала на маёй сьпіне, нізавошта не жадаючы перасесьці ні на татаву, ні на дзядзькаву.

Тут ціха. Ціха і адзінока. Шоргат асіны, шум ветру ў клёнах. Вецер не нясе дажджу, але торфам тут, высока, таксама ня цягне. Тысячу гадоў таму гара, пэўна, была лысай. Дзіўнае пачуцьцё: час цячэ з гукам. От цікава, гэтыя адзінаццаць жанчын, адна зь дзіцем, так і ляжаць тут, нeглыбока пад зямлёй?

Здаецца, не — курганоў сапраўды шмат, але відаць, што адны зь іх ускрытыя і наноў насыпаныя археолягамі, а на іншых, відаць, папрацавалі мясцовыя хлопцы. І я іх разумею. Баюся, каб у мяне была рыдлёўка, я б таксама паддалася спакусе. Не, яны ня барбары. Барбары ня прыйдуць на Дзявочую Горку, бо нічога пра яе ня ведаюць.

Мясцовыя хлопцы — гэта нешта. З адным такім навучэнцам пачатковай школы лістуецца мая старэйшая дачка. Лісты з абодвух бакоў дастаўляюцца на роварах і хаваюцца пад адметным каменем пры дарозе. Перапіска вядзецца па-беларуску! Не, на гэтых хлопцаў сердаваць не выпадае, — думаю, калі мы вяртаемся вуліцай Каліноўскага. Выглядае яна ў Дубраве нашмат сымпатычней, чым аднайменная ў сталіцы.

А вечарам надыходзіць час падумаць пра будзённае — і я бяруся марынаваць перцы. "Дурны той, хто яшчэ сам варыць сабе варэньне, — успамінаецца зь Бёля. — Гальштэге зробіць гэта за цябе!" Найн, ніякі Гальштэге за мяне гэтага ня зробіць. Помню, у Мамучы з "Бога дробных рэчаў" кансэрвы заўжды атрымваліся трошачкі саланейшыя, чым трэба. Мае перцы будуць мець дасканалы смак — рэцэпт правераны.

Дзеці ў самаробным шалашы надзіва зладжана сьпяваюць "Тры чарапахі" (Томця падцягвае кожнае апошняе слова радка), іх таты займаюцца шашлыком. Цямнее, і праз дымную смугу ў небе настойліва, але зь цяжкасьцю пачынаюць прасьвечваць зоркі. Палярнай за дымам не відаць. Мы зь сяброўкай бярэмся за працу.

Рэцэптам магу падзяліцца. Новая восень — не апошняя, а там, можа, яшчэ і зіма не апошняя. Прыдасца.

### Перцы кансэрваваныя

3 кг перцаў (нячышчаных), 2 шклянкі вады, шклянка алею, шклянка 9-працэнтнага воцату, шклянка цукру, сталовая лыжка солі, 6—8 лаўровых лістоў, 10—15 гарошынаў чорнага перцу.

Перцы памыць, пачысьціць, кожны разрэзаць на 4—5 частак.

У шырокі рондаль уліць ваду, масла, воцат, усыпаць цукар, соль, укінуць лаўровае лісьце і чорны перац. Давесьці да кіпеньня.

Падрыхтаваныя перцы апусціць у рондаль і варыць, асьцярожна памешваючы, ня больш за 15—20 хвілінаў з моманту апусканьня.

Адразу пасьля гэтага расфасаваць разам з марынадам у невялічкія слоікі і закатаць.

Атрымліваецца 6 паўлітровых слоікаў. Прыгатаваньне, разам з мыцьцём і стэрылізацыяй слоікаў, займае гадзіну і 15 хвілінаў, калі працуе адзін чалавек.



# Колькі зарабляюць спартоўцы



**Прылюдныя скаргі трэнэра Эдуарда Малафеева на малыя грошы (атрымлівае ён каля 50 тыс. даляраў у год) прыцягнулі ўвагу да яшчэ слаба асьветленай тэмы заробкаў у беларускім спорце.**

Спартоўцы-каманднікі (футбалісты, баскетбалісты і г.д.) атрымліваюць грошы зь бюджэту краіны толькі падчас навучаньня ў спэцыялізаваных установах. Гэтая стыпэндыя крыху большая за студэнцкую, пражыць на яе наўрад ці магчыма. Таму ўсе навыперадкі імкнуцца трапіць у якую-небудзь прафэсійную каманду. Найболып цяпер зарабляюць хакеісты. Дзякуючы "модзе" на хакей, гэты від спорту мае рэальную спонсарскую падтрымку. І наймацнейшыя каманды Беларусі, як менскі "Керамін" ці "Гомель", могуць трымаць пры сабе якасных хакеістаў, плацячы ім каля тысячы (а часам і болей) даляраў у месяц. У кожнага хакеіста індывідуальны кантракт, і сумы кантрактаў — таямніца, але сярэдняя — такая. У іншых клюбах, адпаведна, меншая. Спонсар магілёўскага хакейнага клюбу — "Хімвалакно", менскага — завод па вытворчасьці сантэхнікі "Керамін". Наваполацкі жыве за кошт "Паліміру".

Нашы футбалісты значна бяднейшыя. На ўзроўні — барысаўскі БАТЭ, дзе гульцы атрымліваюць тую ж сярэднюю тысячу даляраў, салігорскі "Шахцёр", "Гомель". Трымаюцца клюбы, што маюць нармальных спонсараў. Так, "Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод" падтрымлівае "Славію", завод "Трансмаш" — "Дняпро-Трансмаш", "Дарыда" — аднайменную каманду, лідэра першага дывізіёну. А вось у віцебскім "Лякаматыве-96" на пачатку сэзону заробак склаў 86 тыс. рублёў у месяц.

Наўпрост ад дзяржавы атрымліваюць грошы толькі хакеісты-футбалісты зборных, і то ў якасьці прэміяльных за посьпехі.

Непасрэдна ж зь бюджэту краіны "цягнуць" індывідуальнікі — удзельнікі зборных па алімпійскіх відах спорту. Выплаты гэныя завуцца алімпійскімі стыпэндыямі, сума залежыць ад колькасьці здабытага спартоўцам каштоўнага мэталу і прэстыжнасьці віду спорту ў краіне і ў сьвеце.

Так, стыпэндыя гімнаста Івана Іванкова ў 2001 г. складала 1200 даляраў у месяц, а чатырохразовы чэмпіён сьвету па шашках Анатоль Гантварг атрымліваў 300 даляраў. Усе іншыя сумы вагаюцца між гэтымі дзьвюма. Астатнія грошы "на пражыцьцё" спартоўцы зарабляюць на разнастайных камэрцыйных "Гран-пры" (лёгкая атлетыка), этапах Кубку сьвету (лыжы, біятлён). Вельмі важна лічыцца пэрспэктыўным спартоўцам — мець надзею трапіць на бліжэйшай Алімпіядзе ў васьмёрку найлепшых. Інакш цябе дзяржава гэтай алімпійскай стыпэндыі пазбавіць. А прафэсійна займацца спортам за свае грошы немагчыма.

**Аляксей Шыдлоўскі**

# Мядзьведзевы падарожжы




**Аляксандар Мядзьведзь — трохразовы алімпійскі чэмпіён, шматразовы чэмпіён сьвету па барацьбе ў вольным стылі, прафэсар. Магутная сіла прынесла яму сусьветную вядомасьць. Спаборніцтвы з удзелам Мядзьведзя зьбіралі тысячы гледачоў, бо кожны ягоны выступ быў відовішчам. Дагэтуль Мядзьведзь застаецца адным з самых папулярных беларусаў у сьвеце. Ягоныя студэнты часта кажуць у дэканаце, што згубілі залікоўку, каб захаваць на памяць аўтограф. У канцы 2000 г. Аляксандар Мядзьведзь быў прызнаны спартоўцам стагодзьдзя ў Беларусі. З 1959 г. ён езьдзіў на міжнародныя спаборніцтвы, звозіў з усяго сьвету мэдалі, кубкі ды проста сувэніры на памяць — для сябе і сям'і. Пра свае падарожжы Аляксандар Мядзьведзь распавядае чытачам "НН".**

"Нягледзячы на тое, што ўсе мае паездкі былі ў складзе зборнай, а пазьней — проста афіцыйныя візыты, мне заўсёды ўдавалася паглядзець краіну, у якой я быў. Шмат разоў наведваў **Японію**. Першая паездка была ў 1960-м, потым у 1961-м, Алімпійскія гульні 1964-га. Тады нас вельмі ўразілі высачэзныя хмарачосы. Такіх гіганцкіх пабудоваў мы яшчэ ня бачылі. А таксама завод радыёэлектронікі. Нам падаравалі транзыстары, і мы былі страшэнна задаволеныя. Гэта асаблівая краіна. Людзі ўразілі сваёй ветлівасьцю і гасьціннасьцю. Ніколі ніводзін японец не павярнуўся да мяне сьпінаю.

## Кімано да пояса

Пасьля трэніроўкі мы звычайна парыліся ў саўне, а потым ішлі вячэраць. Для кожнага спартоўца ў нумары гатэлю былі падрыхтаваныя кімано. Уяўляеце, як я выглядаў, калі прыйшоў пасьля лазьні ў рэстарацыю, апрануўшы кімано, разьлічанае на рост 155 см? Пры маіх двух мэтрах яно было сантымэтраў на трыццаць вышэй калена. Абслуга была ў шоку. Я сеў за нізенькі столік і ўвесь вечар спрабаваў прыкрыць ногі. А тут на маю бяду прынесьлі шашлык, які мы самі павінны былі прыгатаваць. Так я і трымаў адною рукою шашлык, другою кімано нацягваў.

## Тахці

Асаблівыя адносіны ў мяне склаліся з **Іранам**. Там мне ледзьве не пакланяюцца. У 1960 г. я перамог іхнага знакамітага барца Тахці. Пасьля гэтага паядынку ўся заля плакала. А нашу дэлегацыю назаўтра запрасілі на прыём да шаха. Славутага Тахці ўжо няма. Некаторыя кажуць, што скончыў жыцьцё самагубствам, а некаторыя — што забілі. Калі яго хавалі, некалькі заўзятараў забілі сябе каля магілы і былі пахаваныя разам са сваім кумірам.

## Мазалі ад сьцяга

Зь Пятром Машэравым быў на фэстывалі **на Кубе**. Запрасіў нас на афіцыйны прыём Фідэль Кастра. На фэстывалі мне выпала несьці сьцяг. Палатно было прымацаванае да цяжкай мэталёвай трубы, і ад доўгага трыманьня на руках наццёр крывавыя мазалі.

## Стрэльба на ланцугу

У 1967-м езьдзіў у **Індыю** на чэмпіянат сьвету. Шматлікія будысцкія храмы, незвычайная архітэктура, насычаныя колеры... Індыя зьдзіўляе і выклікае спачуваньне: неверагодныя багацьці — побач з жабрацтвам. Ідзём па горадзе і бачым, як каля шыкоўнага будынку банку сьпіць седзячы ахоўнік, прывязаўшы да сябе ланцугом стрэльбу. Зайшлі пад мост, а там жывуць людзі — ежу сабе гатуюць, жанчына ў пакутах нараджае дзіця. Людзі купаюцца ў такой бруднай вадзе, што проста жах бярэ. Наглядзеўшыся на ўсё гэта, перайшлі харчавацца ў пасольства. З Індыі я прывёз жонцы вельмі прыгожыя каляровыя пацеркі. А яшчэ купіў цёплы швэдар, які праз пару дзён рассыпаўся, бо быў зьвязаны зь ня якасных нітак.

## "Доктар! Доктар!"

У 1968 г. была Алімпіяда ў Мэхіка. **Мэксыка** — высакагорная краіна. На маё здароўе моцна ўплываў недахоп кіслароду. Некалькі разоў нават прытомнасьць губляў. Працягваць барацьбу прымушала толькі сіла волі. У фінале, падчас паядынку зь немцам Дытрыхам, адбыўся непрыемны выпадак: у разгар бою чую хруст, а потым дзікі боль — палец выскачыў. Немец паказвае, каб я ішоў да доктара. А я, не сыходзячы з дывана, сьцяў зубы і паставіў палец на месца. У тым паядынку я перамог. Праз сорак сэкундаў немец паваліўся на край дывана і закрычаў: "Доктар! Доктар!" Яго панесьлі на руках. Свaім учынкам я Дытрыха проста дабіў.

## Рэвалюцыя як рэвалюцыя

Быў і ў Афрыцы — у **Конга**. Разьмясьцілі нас у маёнтках, адкуль, відаць, часова прагналі заможных гаспадароў. І раптам пачалася страшэнная страляніна. Нам загадалі легчы на падлогу. Сьвісталі кулі, ляцела шкло. Назаўтра ўсё сьціхла. Такія "рэвалюцыі" там — частая зьява. Потым перавезьлі нашую дэлегацыю бліжэй да акіяну, а грошай на гатэль не далі. Нам працавалі пажыць пад адкрытым небам на тэрыторыі вайсковай базы, дзе проста загрызаюць маскіты.

## У белых мядзьведзяў

З паездак па Расеі запомнілася наведаньне Якуціі. Былі ў невялікім гарадку — у Беларусі вёскі ёсьць большыя. Выступілі ў спартовай залі, паказалі ім колькі прыёмаў, а потым пытаемся: "Дзе тут можна памыцца?" Нам паказалі вядро вады, нагрэтай з дапамогай электракіпяцільніка. Вядро вады на ўсю каманду! Затое ў Якуціі сустрэў сваёго "белага брата" — калі езьдзіў да палярнікаў на льдзіну. Падышла мядзьведзіца зь медзьведзяняткам. Я кінуў ёй бляшанку згушчанага малака. Яна сьціснула яе лапамі, дык тая й луснула, бы яйка. Мядзьведзіца аблізала салодкае сама, а потым дала пакаштаваць свайму дзіцяці".

**Запісала Валянціна Лецка**

**16 верасьня Аляксандру Мядзьведзю споўнілася 65 гадоў. Рэдакцыя "НН" далучаецца да віншаваньняў.**

## з усёй краіны

### Барацьба з шаленствам

**Каардынацыйная рада па прафіляктыцы шаленства створана пры Аршанскім гарвыканкаме.** Падставай для гэтага стала сьмерць маладога мужчыны. Яшчэ ўвесну ён палашчыў нейкага прыблуднага сабаку. Той "аддзячыў", цапнуўшы за руку. Мужчына асаблівай увагі гэтаму не надаў, а дарэмна — сабака быў шалёны. Інкубацыйны пэрыяд хваробы доўжыцца ад 10 дзён да году. У аршанца ён склаў чатыры месяцы, і выратаваць яго жыцьцё дактары ўжо не маглі. Створаная рада абавязала ўладальнікаў сабакаў ды катоў штогод рабіць ім прышчэпкі ад шаленства. У верасьні—кастрычніку будзе праведзены адлоў ды адстрэл сабакаў, якіх заўважаць на вуліцах без гаспадароў.

### Аўтобус і "Кацюша"

**Аршанскі аўтобус №3, што кіраваўся з Задняпроўя ў цэнтар, раптам страціў кіраваньне, пакаціўся з гары, перасёк паласу сустрэчнага руху і ўзьехаў на ўзвышша да помніка "Кацюшы".** Па інэрцыі даў назад і быў спынены бардзюрам. Як высьветлілася, кіроўца аўтобуса на нейкі момант страціў прытомнасьць. Некіроўная машына панеслася з гары да мосту цераз Дняпро. Аднак па шчасьлівай выпадковасьці зьвярнула ўбок. Праўда, на сваім шляху яна зьбіла мужчыну, які ехаў на ровары (дзякуючы ўдалай шматгадзіннай апэрацыі яго жыцьцё ўратаванае.)

### Абрабавалі храм

Ужо трэці раз за два гады існаваньня абрабаваная царква Раства Хрыстовага, што месьціцца ля чыгуначнага вакзалу Воршы. Скрадзеныя грашовыя ахвяраваньні ды ўрачыстае адзеньне сьвятара. Падазраюцца падлеткі — відаць, будучыя "парафіяне" айца Аляксандра Харламава, галоўнага турэмнага сьвятара Віцебскай япархіі.

**Віктар Лютынскі, Ворша**

### Выкладаюць па-расейску

**Летась гістарычны факультэт Гарадзенскага ўнівэрсытэту адчыніў беларускамоўную плынь.** Сёлета ўжо два курсы маюць магчымасьць вучыцца цалкам на роднай мове. Аднак многія выкладчыкі адмаўляюцца чытаць лекцыі па-беларуску. Кіраўніцтва факультэту ня вельмі зважае на гэта, таму нават на беларускамоўнай плыні практычна дамінуе расейская мова выкладаньня.

Пра адносіны ж студэнтаў да "другой дзяржаўнай" яскрава сьведчаць вынікі паступленьня. Конкурс на беларускамоўную плынь склаў амаль 3 чалавекі на месца, у той час як на расейскамоўную быў недабор. Каб дакамплектаваць непапулярную групу, адміністрацыя амаль гвалтам перавяла дзясятак студэнтаў на плынь з расейскай мовай навучаньня.

**Зьміцер Аляшкевіч, Горадня**

## факты тыдня

**НА 9% МЕНЕЙ БУЛЬБЫ** зьбяруць сёлета калгасы. Яе сярэдні ўраджай будзе невысокі — 95—105 цэнтнэраў з гектару.

**67% ЭЛЕКТРЫЧНАСЬЦІ** аплачваюць цяпер калгасы і саўгасы. У пачатку году гэты паказьнік быў 30%.

**3 ТЫС. ЛІФТАЎ** (10% ад агульнай колькасьці) у Беларусі працуюць ужо па 20—30 гадоў і таму небясьпечныя для карыстаньня. Камунальнікі ж мяняюць штогод толькі па 100—150 ліфтаў. Кожны каштуе 12—14 тыс. даляраў.

**90% АЎДЫЁ- І ВІДЭАКАСЭТАЎ** у Беларусі прадаецца безь ліцэнзіяў. У Нацыянальным цэнтры інтэлектуальнай уласнасьці цьвердзяць, што палова аўдыё- і відэамагнітафонаў, якія прадаюцца на рынках, — таксама падробкі.

**УЗАЕМАРАЗЬЛІКІ ГАТОЎКАЙ** для прадпрыемстваў і індывідуальных прадпрымальнікаў адгэтуль абмежаваныя 50 базавымі велічынямі ў месяц (555 тыс.рублёў). Большыя сумы дазволена праводзіць толькі праз банкі.

**ПЛОШЧА МЕНСКУ** ў найбліжэйшыя дзесяцігодзьдзі павялічыцца ў 1,6 разу. А колькасьць насельнікаў, паводле генэральнага пляну разьвіцьця, вырасьце толькі на 10—15%. Менгарвыканкам тлумачыць: у сталіцы будуць будаваць кватэры большага мэтражу, а таксама пашыраць катэджавую забудову.

**АКЦЫЗЫ НА БЭНЗЫН** і дызпаліва зьніжаныя ў Беларусі з 1 верасьня. Акцыз для АІ-95 складае 100 эўра/т (раней 135 эўра/т), АІ-92 — 90 эўра/т (раней 120), А-76 — 70 эўра/т (раней 95), дызпаліва — 40 эўра/т (раней 60). У Расеі з студзеня 2003 г. акцызы на бэнзын падвысяцца на 45%.

**ПРЫЗНАНЫ БАНКРУТАМ** "Беларускі біржавы банк". Польская фірма "Аптымаль", якая мелася купіць кантрольны пакет акцыяў "БББ" і заплаціць частку пазыкаў, адмовілася ад сваіх намераў.

**114 ТРАКТАРОЎ МТЗ-82** агульным коштам 1,5 млрд. даляраў, якія хацелі вывезьці зь Беларусі дзьве расейскія фірмы, былі канфіскаваныя паводле рашэньня Гаспадарчага суду. Трактары перададзеныя сельскагаспадарчым прадпрыемствам.

**14 ТЫС. КАЛОДЗЕЖАЎ** Менскай вобласьці забруджаныя нітратамі. Выкананьне абласной праграмы забесьпячэньня насельніцтва пітной вадой будзе разглядацца на сэсіі Менскага аблсавету дэпутатаў, якая пачнецца 23 верасьня.

**АБРАБАВАНЫ** Камэрцыйны інстытут кіраваньня і прадпрымальніцтва ў Менску. Рабаўнікі вынесьлі сэйф з дакумэнтамі й грашыма, а таксама 15 сыстэмных блёкаў ад кампутараў.

**"БЕЛІНТЭРЭКСПА"** падпісала пагадненьне аб супрацоўніцтве з ЗАТ "Ніжагародзкі кірмаш": беларускія прадпрыемствы цяпер змогуць удзельнічаць у выставах і кірмашах Паволжа.

**У ТУРКМЭНІСТАНЕ** адкрылася беларускае дыпляматычнае і консульскае прадстаўніцтва. Пасьля акрэдытацыі распачаў працу другі сакратар пасольства Зьміцер Кішкурна. Гэта 53-е прадстаўніцтва нашай краіны за мяжой.

**2,1 КГ МАРЫХУАНЫ** затрымалі 15 верасьня ў Лідзе супрацоўнікі раённага аддзяленьня "Ахова".

**С.І.,А.Ш.**

# "Паўлінка" можа зачыніцца



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Вядомая ўсяму Менску сувэнірная крама "Паўлінка", што на праспэкце Скарыны, можа хутка зьнікнуць. Памяшканьне, якое яна займае, прыцягнула ўвагу Кіраўніцтва справамі прэзыдэнта. Прадавачкі наракаюць, што менавіта таму на краму насылалі пажарныя праверкі, загадвалі тэрмінова рабіць капітальны рамонт (нягледзячы на тое, што апошні раз ён рабіўся ў другой палове 90-х), спрабавалі знайсьці парушэньні арэнднай дамовы... Урэшце, утрая падвысілі арэндную плату.

На сёньня "Паўлінка" — адзіная крама ў цэнтры Менску, якая спэцыялізуецца на гандлі сувэнірамі ў фольк-стылі: вырабамі зь лёну, керамікі, дрэва. Да нядаўняга часу была яшчэ адмысловая крама "Сувэніры" на скрыжаваньні вул.Валадарскага і Кірава. Аднак тая ў сувязі з рэканструкцыяй гатэлю "Сьвіслач", зь якім яна суседнічала, вось ужо год як зачыненая.

Як паведамілі "НН" у канцэрне мастацкіх промыслаў, у падпарадкаваньні якога зь лютага знаходзіцца "Паўлінка", пакуль лёс крамы канчаткова ня вырашаны: ейныя супрацоўнікі спрабуюць адстаяць сваё месца, зьвяртаючыся да прэзыдэнта канцэрну і ў Кіраўніцтва справамі.

**А.Ш.**

# Бітва за ўласнасьць ФПБ

Працяг са старонкі 1.

А пасьля, калі ўзначаліў тое прадстаўніцтва, нібыта здаваў тыя мэтры ангельскай фірме, атрымліваючы немалы прыбытак. Былы кандыдат у прэзыдэнты пацьвердзіў факт: "Гэта была абсалютна законная перадача. Мы не маглі плаціць унёскі, таму і перадалі памяшканьні — гэта нармальна". "Цяжка сказаць, наколькі гэта нармальна — аддаваць беларускую ўласнасьць за так, у лік пагашэньня нейкіх узносаў, — казаў камэнтатар БТ 16 верасьня. — Няўжо сяброўства ва Ўсеагульнай канфэдэрацыі прафсаюзаў было жыцьцёва неабходнае беларускім прафсаюзам? Ці, можа, нехта проста спрабаваў падрыхтаваць для сябе запасную намэнклятурную пасаду?"

Камень кінуты відавочна ў Ганчарыка. Таксама, як і абвінавачаньне, што ён прадаў сыну краму на вуліцы Мельнікайтэ па 20 даляраў за кв.м., хоць насамрэч мэтар каштуе там ня менш за 300 даляраў.

ФПБ працуе на закрыцьцё менскага прадстаўніцтва УКП па Беларусі, Украіне і Малдове "як надуманай і бязьдзейнай структуры". Гэтую ініцыятыву ўпершыню агучыў Леанід Козік на зьезьдзе Фэдэрацыі незалежных прафсаюзаў Расеі ў Маскве 12 верасьня.

Абвяргае Ганчарык і інфармацыю, што ў ягоную бытнасьць старшынём ФПБ прададзены "Прафбанк": "Ніякага продажу не было. Была элемэнтарная падпіска. Нацбанк спрабаваў адклікаць ліцэнзію (тады трэба было 2 млн. экю статутнага фонду), мы даганялі патрэбную суму. Калі прафсаюзы выдыхліся, давялося рабіць падпіску на акцыі. Хто ўдзельнічаў у падпісцы, той і атрымаў кантрольны пакет".

Відавочна, што "антыкарупцыйны" скандал у ФПБ будзе мець працяг. Наколькі сур'ёзны даклад Рэвізійнай камісіі — стане відаць пасьля зьезду, па рэакцыі пракуратуры.

Ва ўласнасьці ФПБ на сёньня знаходзіцца 17 санаторыяў, пансіянатаў ды дамоў адпачынку, 18 турбазаў і гатэляў, 3 палацы культуры, Міжнародны інстытут працоўных і сацыяльных адносінаў і яго філіі ў Гомелі ды Віцебску, два навучальныя цэнтры, шэраг спартовых, вытворчых арганізацыяў. Агульны кошт прафсаюзнай уласнасьці ацэньваецца ў 103 млрд. рублёў. У распараджэньні рэгіянальных структураў ФПБ маецца яшчэ больш як на 8 млрд. рублёў асноўных сродкаў.

Фэдэрацыя атрымлівае неблагія прыбыткі. Разгледзім гэта на прыкладзе "Беларустурысту" — ейнае ўласнасьці. ГЭУП "Беларустурыст" аб'ядноўвае 22 даччыныя прадпрыемствы: 9 гасьцініцаў і 9 аздараўленчых комплексаў, 9 рэстаранаў на 2155 месцаў, 32 бюро падарожжаў і экскурсіяў, 6 аўтапрадпрыемстваў. У 2001 г. балянсавы кошт ягоных асноўных фондаў склаў 59,4 млрд., рэшткавы — 36,8 млрд. рублёў. Уведзена новых асноўных фондаў на суму 1,5 млрд. рублёў, выканана на 1,1 млрд. рублёў будаўнічых працаў. УП "Менсктурыст" абслугоўвае да 200 тысячаў экскурсантаў за год.

**Глеб Хмяльніцкі**

## паведамленьні

### Ільготаў паменее

**Плян рэфармаваньня льготаў прапанавала Міністэрства працы.** Паводле словаў міністаркі спн.Моравай, налета льготы могуць страціць сем'і ганаровых вэтэранаў і ўдзельнікаў вайны. Скароцяцца й так званыя "прафэсійныя" льготы. Ужо скасаваная падатковая льгота для грамадзянаў, што карыстаюцца платнай мэдыцынай. Цяпер грошы, што выплачваюцца мэдычным установам за стацыянарнае лячэньне, уключаюцца ў сукупны гадавы прыбытак і абкладаюцца падаходным падаткам.

**С.І.**

### Абнаўленьне птушкафабрыкі

**Віцэ-прэм'ер Анатоль Цюцюноў узначаліць штаб па рэканструкцыі і тэхнічным пераабсталяваньні менскай птушкафабрыкі імя Крупскай. Абнаўленьне**, якое абыдзецца ў 4 млрд. рублёў, выдзеленых зь дзяржаўнага і мясцовага бюджэту, павінна скончыцца да 1 верасьня 2003 г. Назва і пасьля рэканструкцыі застанецца ранейшая.

### Мабілы ад "Белсэлу"

**Сетку мабільнай лічбавай сувязі найноўшага стандарту cdma2000 дазволіла ствараць СП "Белсэл" Міністэрства сувязі.** Ад *GSM* гэты стандарт розьніцца значна ніжэйшым узроўнем шкоднага электрамагнітнага выпрамяненьня.

### Фуры будуць чыстыя

**58 аўтамыечных комплексаў для грузавых аўтамабіляў зьявяцца на кальцавой дарозе вакол Менску і на асноўных уездах у горад.** Сыстэма распрацаваная на замову Менгарвыканкаму. Першая чарга будаўніцтва мусіць скончыцца да 2005 г., другая — да 2010 г.

**А.Ш.**

## дзе варта быць

### Да Агінскага на радзіму



**Усім прыхільнікам творчасьці Міхала Клеафаса Агінскага,** аматарам шляхецкае старасьвеччыны ды ахвотным прабавіць выходныя ў добрай беларускай кампаніі варта 22 верасьня апынуцца ў Залесьсі (Смургоншчына), дзе будзе сьвяткавацца 237-ы дзень народзінаў кампазытара. У праграме — традыцыйныя "Пошукі Бэльвэдэра" — такое сабе спаборніцтва па спартова-літаратурным арыентаваньні на тэрыторыі маёнтку Агінскіх, тэатралізаваная гульня ў клясычаў "Паўночнаатэнскае кола", бардаўскі канцэрт і, ведама ж, палянэз.

Трапіць у Залесьсе можна цягніком Менск-Вільня, які выпраўляецца зь Менску ў 6.35. Квіток да Залесься ў агульным вагоне каштуе 2900 рублёў, у купэйным — на тры тысячы болей. Тыя, каму віленскі цягнік падасца задарагім, могуць за паўтары тысячы даехаць электрычкай да Маладэчна (зь Менску яна адыходзіць у 6.41), а адтуль дызэлем Маладэчна-Гудагай — да Залесься. Квіток, не зважаючы на перасадкі, можна ўзяць адразу ў Менску. Трапіўшы ў Залесьсе, шыбуйце проста да сядзібы, там яе вам кожны пакажа. З сабою вазьмеце лусту — падсілкавацца і, ведома, добры настрой.

## з усёй краіны



**У прынёманскім мястэчку Беліца актывісты БНФ і ТБМ усталявалі сямімэтровы дубовы крыж і каменны знак у памяць пра няроўны абарончы бой 1659 г. Тады тут, ля броду праз Нёман, трохтысячнае рушаньне лідзкае шляхты стрымала наступ удзесяцёра большага расейскага войска.**

### Гараць лецішчы

**Новы клопат зьявіўся ў пінчукоў.** У пятніцу, 13 верасьня, пачаўся пажар на балоце, якое падыходзіць да лецішчаў чальцоў садовага таварыства "Азёрнае". Ужо згарэў чарот, заняўся торф. Усе выходныя дачнікі капалі траншэі і пільнавалі, каб агонь не спаліў іх хаты. Сябры садовага таварыства ведаюць, хто запаліў балота, аднак у дзяржаўныя органы не паведамляюць. Напэўна, будуць разьбірацца самі.

### Стойла для гандляроў

**Дырэктар ГУП "Каапрынак" П.Пракопчык падрыхтаваў праект рэканструкцыі двух рынкаў, якія належаць гэтай арганізацыі.** Замест сёньняшніх гандлёвых намётаў ён пляне паставіць кантэйнэры з раletамі. Пераабсталяваньне будзе каштаваць кожнаму гандляру 1832 даляры. Тым, хто адмовіцца плаціць, давядзецца сыходзіць з рынку. Усе новыя пабудовы, трапна названыя "стойлам", будуць належаць ГУП "Каапрынак". Гандляры абураюцца, кажучы што такія кантэйнэры ў Польшчы значна таньнейшыя.

**Васіль Мацкевіч, Пінск**

### Streł u akno

**A 6-j ranicy 9 vieraśnia ŭ akno kvatery pa vul.Kamarova ŭ Baranavičach niechta streliŭ.** Byŭ paranieny 30-hadovy haspadar, jaho špitalizavali. Milicyjanty vyśviatlajuć, chto, z čaho i čamu stralaŭ.

**Rusłan Raviaka, Baranavičy**

# Алесь Пашкевіч: “Ня бачу падставаў баяцца”

**“НН”: Колькі ўсё ж будзе зьездаў Саюзу пісьменьнікаў — два розныя ці адзін агульны?**

**Алесь Пашкевіч:** Сёньня ўсе, у тым ліку і Рада Саюзу, кажуць адназначна: зьезд будзе адзін. У адзін дзень, у адзін час, у адным месцы — у Доме літаратара. А каб не было драбленьня на “нашых” і “вашых”, я прапанаваў нават прыняць на паседжаньні камісіі пастанову: забараніць сябрам Саюзу пісьменьнікаў ужываць словазлучэньні “раскол Саюзу” ці “развал Саюзу”.

**“НН”: Ніл Гілевіч у “Народнай волі” напісаў, што такой бяды ад гэтага расколу. Хай бы сабе было некалькі пісьменьніцкіх арганізацыяў, абы творы добрыя пісаліся.**

**А.П.:** Паводле статуту, ствараць аб’яднаньні дазволена і ў межах Саюзу (так, ёсьць суполка марыністаў). Саюз павінен застацца адзін. Не такая багатая Беларусь, каб у ёй былі дзьве гэткія арганізацыі. У сёньняшніх эканамічных умовах паасобку жыць будзе цяжэй.

**“НН”: Але ж супрацьстаяньне паміж дэмакратычна і праўладна настроенымі творцамі ў пісьменьніцкай арганізацыі апошнім часам абвастрылася.**

**А.П.:** У Саюзе пісьменьнікаў сабраліся людзі розных перакананьняў. Аднак у нас ёсьць магчымасьць згрупавацца паводле не палітычных ці ідэйных, а — мастацкіх перакананьняў. Бо Саюз пісьменьнікаў — творчая арганізацыя.

**“НН”: Ці не імкнуцца ўлады раскалоць СП, як гэта зрабілі з Саюзам мастакоў, Саюзам тэатральных дзеячаў?**

**А.П.:** Наадварот, падчас працы камісіі сябрам Рады была даведзеная думка ўладаў, што Саюз павінен быць адзін. Тэлефанаваньні, якія даходзілі ад кіраўніцтва, былі ў гэтым аднадушнымі.

Паралеляў з 30-мі гадамі тут быць ня можа. Тады гвалтам было спыненае існаваньне іншых літаратурных аб’яднаньняў і створаны адзін Саюз. Сёньня можна засноўваць самастойна творчыя аб’яднаньні. І яны ёсьць — Таварыства вольных літаратараў, напрыклад. Таму пакуль я ня бачу падставаў баяцца ціску з боку ўладаў.



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

**“НН”: На зьезьдзе мусіць быць абраны новы старшыня Саюзу. Чые кандыдатуры абмяркоўваюцца?**

**А.П.:** Наконт канкрэтных пэрсаналіяў у камісіі пакуль гаворкі не было. Цяпер вядуцца перамовы зь людзьмі, якія будуць выступаць на зьезьдзе. Камісія распрацоўвае ўсе неабходныя дакумэнты і выносіць іх на Раду, запланаваную на 23 верасьня. Гэтае паседжаньне будзе своеасаблівым міні-зьездам: там шмат што будзе вырашацца...

**“НН”: Ці праўда, што кандыдатам ад дэмакратычнага крыла пісьменьніцкай арганізацыі будзе Алесь Пашкевіч?**

**А.П.:** Я на сябе адказнасьці за гэтыя чуткі не вазьму. Я раблю чарнавую працу па падрыхтоўцы зьезду. Дзеяздольным зрабіць Саюз пісьменьнікаў можа толькі каманда людзей, якія будуць апантана працаваць на карысьць арганізацыі, а не адзін старшыня.

**“НН”: Ці не зарана 30-гадовату пісьменьніку ўзначальваць Саюз?**

**А.П.:** Перакананы, што ў Рады СБП хопіць разважнасьці ў гэтым разабрацца.

**“НН”: А хто мог бы ўвайсьці ў каманду?**

**А.П.:** Я не ўпаўнаважаны называць пэрсаналіі, бо яшчэ толькі пачалася работа зь людзьмі — вядуцца гаворкі, агітацыя... На маю асабістую думку, такой камандай мусіць стаць пакаленьне трыццаці- саракагадовых творцаў, якія прыслухоўваюцца да думкі літаратурных аксакалаў.

**“НН”: Якіх рысаў не стае Саюзу пісьменьнікаў як арганізацыі? Чаму ён пачаў развальвацца?**

**А.П.:** Варта казаць не пра развал, а пра застой. Пакуль што Саюз — адна арганізацыя... І зьезд павінен даць адказ, што рабіць, каб надалей не рассыпацца. І каб быць карысным Беларусі, як ні патасна гэта гучыць. Няхай усё вырашыць мудрая большасьць.

**“НН”: Хто будзе асноўным дакладчыкам?**

**А.П.:** Пакуль яшчэ не з усімі кандыдатамі прайшлі перамовы. Мы дамаўляемся зь Янкам Брылём, Нілам Гілевічам, Уладзімерам Гніламёдавым, Генадзем Бураўкіным.

**“НН”: Прыхільнікі аргкамітэту, нібыта, зьбіраюцца вылучыць сваю кандыдатуру на старшыню Саюзу — кампрамісную фігуру, якая задаволіла б большасьць. Ці ёсьць у дэмакратычных колаў свая тактыка на гэты выпадак?**

**А.П.:** На тое яна і тактыка, каб пра яе да часу не казаць.

**“НН”: У які бок павінен зьмяніцца СП?**

**А.П.:** Здаецца, сама роля Саюзу ва ўсіх трошку перабольшаная. Створаны ў 30-х гадах ХХ ст., ён тады карыстаўся велізарным аўтарытэтам. Але жыцьцё зьмянілася. На сёньня роля і функцыя Саюзу беларускіх пісьменьнікаў мне бачыцца больш сьціплай — “прафсаюз”, які падтрымлівае і абараняе сваіх сяброў, прафэсійная арганізацыя, якая рэпрэзэнтуе нацыянальную літаратуру ў краіне і па-за яе межамі.

**“НН”: Але прафсаюз ня мусіць прэтэндаваць на дзяржаўную падтрымку.**

**А.П.:** “Прафсаюз” — у двукосьсі. Падтрымка культуры — дзяржаўная справа. На пачатку мінулага стагодзьдзя дзяржаву Беларусь стваралі менавіта літаратары: Вацлаў Ластоўскі, Антон Луцкевіч, Кастусь Езавітаў, Цішка Гартны... І сёньня літаратура й культура павінны заставацца дзяржаўнай справай.

**Гутарыў Адам Воршыч**

**24 верасьня ў Доме літаратара мае адбыцца зьезд Саюзу пісьменьнікаў. Зьезд, арганізаваны альтэрнатыўным аргкамітэтам на чале з Гніламёдавым, Мятліцкім, Праўдзіным, ня выключана, можа сабрацца ўжо 19-га. Месцам ягонага правядзеньня называюць Купалаўскі тэатар. Кандыдат ад “дэмакратаў” — Алесь Пашкевіч, ад “дзяржаўнікаў” — Анатоль Бутэвіч. На пасаду прэтэндуе таксама галоўны рэдактар часопісу “Полымя” Мікола Мятліцкі. Ня выключана, што на самім зьезьдзе могуць узьнікнуць і іншыя кандыдатуры. “НН” дае слова кандыдатам.**

# Анатоль Бутэвіч: Маладыя могуць нарабіць памылак

**“НН”: Наколькі сур’ёзная пагроза расколу пісьменьніцкай арганізацыі?**

**А.Б.:** Яшчэ перад мінулым зьездам ішла пагалоска пра хуткі раскол Саюзу. Цяпер тое ж гавораць. Я спадзяюся, што розум возьме верх і расколу не адбудзецца, бо ад яго няма ніякай карысьці. Чытачам патрэбная літаратура. А якім саюзам яна будзе ствараццца — для чытача ня мае ніякага значэньня. Дый шум вакол зьезду — толькі ў самім пісьменьніцкім асяродзьдзі. А на грамадзкасьць гэта значнага ўплыву не аказвае.

Калі б сёньня аднавіць ранейшы статус Саюзу, можна было б вырашыць некалькі праблемаў. Першая — увага да пісьменьнікаў, якія часта апынаюцца самнасам з сваімі бедамі і праблемамі. Другая — увага да спадчыны: літаратура ня з нас пачалася і ня намі скончыцца. Трэцяя — большая ўвага да моладзі.

**“НН”: Якім мусіць быць новы старшыня Саюзу?**

**А.Б.:** Арганізацыйна здольным і чулым да пісьменьніцкіх праблем. Каб выбрацца з крызысу, неабходна спакойная, удумлівая, цягавітая праца па ўсіх напрамках: матэрыяльных, арганізацыйных, аднаўленчых. І неабходна вярнуць сябрам Саюзу павагу да арганізацыі як такой.

У савецкі час Саюз пісьменьнікаў супрацоўнічаў зь Міністэрствам адукацыі, напрыклад, пры падрыхтоўцы падручнікаў, і карысьць ад гэтага была абодвум бакам.

**“НН”: Але ў савецкі час гэта была амаль дзяржаўная арганізацыя, а сёньня — грамадзкая...**

**А.Б.:** Падтрымка творчых саюзаў існавала ня толькі ў савецкай дзяржаве, яна і цяпер існуе ў розных краінах, зьмяніліся толькі формы гэтай падтрымкі. Каб Саюз меў сваю маёмасьць, шмат якія фінансавыя праблемы вырашаліся б прасьцей.

На сёньня мне здаецца рэальным выкананьне нейкіх праграм, як гэта робіцца за мяжой, — напрыклад, праграма падтрымкі таленавітай літаратурнай моладзі (дапамагчы ў выданьні кнігі) ці сэмінар перакладчыкаў беларускай літаратуры на іншыя мовы.

**“НН”: Для пісьменьніка вельмі важна друкавацца. Стварэньне выдавецкага холдынгу “Літаратура і мастацтва” прывяло да таго, што частка пісьменьнікаў забрала адтуль свае творы, а частцы было проста забаронена друкавацца.**

**А.Б.:** Не хачу быць судзьдзём — час рассудзіць усіх. Сёньня, як бы хто ні хацеў, рэальна ўвесьці забарону на друкаваньне таго ці іншага пісьменьніка немагчыма. Нават калі нехта ня здолее надрукавацца ў Беларусі (у што я ня веру), дык надрукуецца там, дзе прымуць яго творы.

Цяжкасьці з друкам існуюць не ў адной Беларусі. Кніга заўжды была таварам, але сёньня яна стала таварам камэрцыйным. І трэба навучыцца існаваць у такіх умовах.

**“НН”: Ці чулі, што Вашую кандыдатуру зьбіраюцца прапаноўваць на зьезьдзе на старшыню Саюзу пісьменьнікаў?**

**А.Б.:** Вядома, чуў, я ж не глухі. Аднак выбар — прэрагатыва зьезду. Маю кандыдатуру прапаноўвалі на папярэднім зьезьдзе — я тады адмовіўся: лічыў, што патрэбна фігура больш грунтоўная, больш аўтарытэтная. Ну, а на сёньня мо больш адміністрацыйная фігура патрэбна. Неабходна разумнае паяднаньне досьведу і маладосьці. Я б не даваяраў адназначна ні аднаму, ні другому. Толькі досьвед — значыць, мы пахаваем будучыню, толькі маладосьць — можна нарабіць памылак. Калі маладыя “паваряцца” ўжо крыху ў гэтым, дык можна ім давяраць стырно.

**“НН”: Ці ня сорамна Вам было працаваць ва ўрадных структурах пасьля “моўнага” рэфэрэндуму?**

**А.Б.:** Працаваць на Беларускасьць ніколі і нікому не павінна быць сорамна. Хіба ж трэба было сысьці і не працаваць?

**Размаўляў Аркадзь Шанскі**



REX-PROMEDIA

Вольга Бабкова

# Дом

*Ракавінка з днішча*
*Дзедавага калодзежа,*
*Дзе тваё мо́ра?*

Ад нашага Дому да Замкавага лесу блізу трох кілямэтраў. За ягоным зялёным калючым кантам амаль адразу пачынаўся гушчар, памятны хіба сунічнай палянай з гарачымі, бы кроў, духмянымі ягадамі. Да Дому мы вазілі іх бітонамі, на старым матацыкле зь люлькай — па крывых утравелых дарожках. Той, хто сядзеў у люльцы, пад брызэнтам ратаваў твар ад учэпістых галінаў. Сунічны водар перабіваў пах бэнзыну, бітоны цесныя бакамі цярліся аб ногі ў цёмнай і хісткай прасторы.

Нехта на свае вочы бачыў у лесе старыя руіны, гнілыя бярвёны, шурпатую цэглу, што засталіся ад Замку. Таму лес паўставаў на краяглядзе маўклівай і вабнай таямніцай з прысмакам жудасьці. Гэтая жудасьць запаўзала пад коўдру познімі летнімі вечарамі зь вялікага саду, што атачаў Дом з трох бакоў і здаваўся ўначы часткай Замкавага лесу.

Раніца ўсё перайначвала. Сьвятло лілося праз вокны, і нават у дажджысты панядзелак паветра ў пакоі было сьветла-жамчужным. Дом стаяў на ўзвышшы, ад весьніц да яго трэба было падымацца па стромкай пясчанай сьцежцы. Дом меў два ўваходы. З галоўнага былі відаць гарод, аборы, плот, за якім пачыналіся лысыя і калматыя пагоркі, жоўта-зялёныя няроўна раскрэсьленыя лугі і палі зь цёмным грэбенем Замкавага лесу ўдалечыні. Упершыню на гэтым узвышшы прыйшло зьдзіўленьне ад невырашальнага несупадзеньня акругласьці Зямлі зь яе простымі дарогамі і вугламі. Хто намотвае на Зямлю шляхі-дарогі, бы тоўстыя вяроўкі на мяч? Што чакае за той кропкай на краяглядзе, да якой немажліва дайсьці, бо яна ўвесь час аддаляецца? Чаму ніхто ня валіцца ў тартарары, калі ўсё ж перасягае тую кропку?.. Чым меншы ты ад зямлі, тым больш пачуваешся Гулівэрам.

Другія дзьверы Дому выходзілі ў сад. Высокія драўляныя сходы з парэнчынамі скрадвалі вышыню мураванага фундамэнту і былі досыць шырокія. Па іх можна было падымацца ўтраіх поруч, зручна сядзець усёй сям'ёй цёплымі летнімі вечарамі. Лесьвічныя дошкі бывалі цёплыя ад сонца, мокрыя ад дажджу, увосень іх засыпала лісьцем і ягадамі арабіна, пасаджаная яшчэ рукамі гаспадара — майго дзеда Паўла. З другога боку ганку рос агромністы, шыкоўны куст бэзу. Калі ён цьвіў, дык нагадваў гіганцкі букет велікана ці застылы ў паветры выбух, што ахінуў увесь сад лілёвым густым водарам, асабліва моцным пасьля дажджу.

Ля сходаў пад крапяжом стаяла бочка. Вада ў ёй была заўсёды цёмная, зялёная, а на дне, казаў брат, жылі вялізныя бліскучыя жукі-плывунцы. Ніякая ў сьвеце сіла не магла б прымусіць мяне засунуць туды палец. У той самай бочцы сядзелі злоўленыя ў Росі ракі — пакуль не зашчамілі клюшнямі кагосьці з малых. Пасьля было дзіўна бачыць ракаў у глыбокай талерцы, пачырванелых, разварыстых, дымных.

У садзе і гародзе было безьліч кветак. Памятаю агромністыя кусты зьдзічэлай ружы, у прысені якіх цьвілі канваліі, мора маргарытак уздоўж сьцежак, гарошак, бярозка, матылькі, астры, сланечнікі. І, вядома, мальвы. Мінаў час адных кветак, надыходзіў час іншых. Ад пачатку вясны да самых халадоў блізкая іх прысутнасьць дарыла адчуваньне сьвята.

У садзе ў засені дрэваў і густых кустоў панаваў змрок. У ім былі амаль нечапаныя мясьціны, дзе можна было хавацца і рабіць таемныя шалашы. Там расьлі зручныя яблыні, на якіх добра гойдаўся прывязаны гамак, але самым улюбёным месцам была белая альтанка з круглым столікам пасярэдзіне. Яе змайстраваў мой другі дзед Шура, рамантык-адвакат, грыбнік і папяросьнік. Яна была вельмі лёгкая, амаль паветраная, зьлепленая з тонкіх рэек. Альтанка не ратавала ад дажджу, але тады гэта было хутчэй не вартасьцю, чым хібай. Набегаўшыся па мокрай траве, намокшы да апошняй ніткі ў час залевы, мы ўбягалі ў альтанку, ускоквалі на вузкія лаўкі дый адчувалі сябе як на чоўне падчас гойданкі. Сад патанаў у шамаценьні, штармавымі хвалямі налятаў на дах кропельны шрот дажджу. Ня памятаю, каб у тыя часы непагадзь цягнулася бясконца. Сонца хутка выпарвала лужыны і ласкавіла чыстыя пасьля дажджу неба і зямлю. "Божая кароўка, што заўтра будзе — дождж ці пагода..."

Гонарам нашага Дому быў умураваны ў зямлю на трыццаць мэтраў калодзеж. Ён быў выкапаны ў садзе, на палове дарогі ад весьніц да ганку. Гаспадарам трэ было падымацца з поўнымі вёдрамі ўгору, суседзям — спускацца да форткі па стромкай сьцежцы ўніз. Вада зь Леановічавага калодзежа лічылася найсмачнейшай, таму нашыя весьніцы ніколі не зашчапляліся. Сюды прыходзілі Ваня-нямко з дому праз вуліцу, балбатлівая баба Насьця, шляхетная Марыя Васілеўна, браты Марозы... Калодзеж быў падобны да доміка са стрэшкай і аканіцай, якая шырока расчынялася, дазваляючы зазірнуць углыб. Спачатку не хапала росту, каб убачыць далёка ўнізе ваду. Памятаю, як першы раз дала рады дзіўнаму мэханізму — ухілілася ад адпушчанай на вольны рух ручкі, не застрэміла па́льца на гладкім драўляным барабане, які шалёна размотваў жалезны ланцуг, пакуль вядро далёка-далёка ня гулькнула ў цёмную ваду. А потым з рыпеньнем і напругай мокры ланцуг намотваўся на сваё месца. Апошняе намаганьне — і пералітае вядро стаіць на прыкалодзежнай лавачцы. Цяпер можна зачыняць аканіцу, але перад гэтым абавязкова трэба нахіліцца, гукнуць і паслухаць рэха. Цудоўны занятак!

*Прыгадваючы залатоўкі, уяўляла наш вялікі Дом ня столькі моцна ўгрунтаваным у зямлю, колькі прымагнічаным залатым бляскам, што нябачна трымае яе моцай зачараванага скарбу.*

Капаў калодзеж дзед Павал недзе ў 30-х. Самае неверагоднае, што з дна копанкі на паверхню паднялі жменю сапраўдных марскіх ракавінак! Гэта сталася падзеяй. Ракавінкі склалі ў скрынку ад пудры і зь цягам часу аддалі ў мясцовы краязнаўчы музэй імя Баграціёна. Маці запомнілася, што ракавінкі ад доўгага ляжаньня ў той скрынцы пахлі парфумай. Яшчэ адзін, але ўжо балючы ейны ўспамін зьвязаны з шэрым паласатым катком, які зваліўся ў калодзеж і быў выцягнуты ўжо нежывым. Дзіцячая роспач была такой моцнай, што маці не магла бязь сьлёзаў прыгадваць малога небараку. З таго часу ў Доме ня зводзяцца шэрыя паласатыя каткі. А сабакі нашыя — спрэс шакалядна-рудыя Бімбы, вясёлыя і нязлосныя. Аднаго такога памятаю асабліва. Наседзеўшыся на ланцугу, ён з такой удзячнасьцю прымаў дараваную гаспадаром волю, што гатовы быў з радасьці перакуліць таго і вылізаць увесь твар. Дзед браў Бімбу, ідучы ў грыбы, дзеці — у поле, што пачыналася адразу за плотам. Не шукаючы сьцежак, мы кідаліся ў жыта, што ў мора. Яно секла нас па голых нагах і казытала плечы. Наверсе было толькі блакітнае неба, а навокал бясконцы жоўты акіян жыцьця. Сабака, губляючы арыенціры, штораз вынырваў сваёй цёмнай галавой з высалапленым набок языком, робячы высозныя скокі над зыбкай жывой паверхняй...

Апроч курэй зь пеўнем, іншых свойскіх жывёлаў у двары ля Дому не было. Малако нам, малым гараджанам, прыносіў суседзкі хлопчык Міша Турлай, які з малых гадоў пасьвіў кароў. Ён штодня гнаў чорна-белых рагуляў паўз наш дом па вуліцы, трымаючы ў адной руцэ дубчык, а ў другой — тоўстую кнігу. Нашая брукаваная Віленская пасьля ранішняга і вечаровага праходу статку ажно дымілася ад каровіных бліноў, а мы, сьмеючыся, раўлі: "Асьцярожна! Замінавана!" Здаецца, я падабалася летуценнаму хлопчыку з малаком і таму крыху саромелася, калі ён прыходзіў зранку ў наш Дом, а я была яшчэ ў ложку і праз шчыліну ў дзьвярах разглядала ягоныя худзенькія босыя ногі ў сандалях і пушыстыя, вельмі-вельмі густыя вейкі вакол цёмных вачэй. Зь Мішам лёс зьвёў мяне ў Менску. Ён даваў мне, студэнтцы першага курсу, слухаць рэдкія кружэлкі з джазам, чытаць Фэйхтвангера, звадзіў на "Сталкера". Ягонае малочнае апякунства вырасла ў апякунства іншага кшталту.

У Доме мы амаль не гулялі, хіба я раскладалася на цёплых дошках ганку са сваімі лялькамі. Часьцей насіліся па двары і за ягонымі межамі. Гэтак аднойчы стрыечная сястра Люда, шукаючы, дзе зьнеслася курыца, знайшла на вышках у саломе скрынку з-пад "Птушынага малака". Радасьць была нядоўгай: у скрынцы ляжаў братаў драўляны самапал з кулькамі, а побач выкапаўся цэлы арсэнал драўлянай зброі нашых суседзяў. Затое на бульбяным полі мы знайшлі сапраўдную лімонку без запалу. Пераспрачаліся, адбіраючы яе адно ў аднаго, пакуль хтосьці ня кінуў гранату зноўку ў поле. Колькі потым хлопцы ні шукалі яе, вытоптваючы грады, — не знайшлі. Яшчэ мы любілі паліць вогнішча ля поля і смажыць на ім жытнёвыя сьпелыя каласы. Якія смачныя былі цьвёрдыя ядзеркі, якім духам пахла потым нашая вопратка і валасы!

Водар — асаблівая тэма. Аднойчы ў Менску, пераходзячы вуліцу на сьвятлафор, я зьбянтэжана спынілася. Пахла нечым такім, чаму не было тлумачэньня. Пахла дзяцінствам. Гэта вельмі тонкі водар, ён мае безьліч адценьняў. Водар паветра раньняй вясны з адчыненай форткі хмарачосу, гарачай ад сонца кветкі шыпшыны, цёплага пылу на паддашку, зваранай у лупінах бульбы, пах півоняў і ванільнага цукру.

...У Доме было чатыры пакоі і вялізная кухня, палову якой займала печ. Пад чатыры куты Дому, заліваючы фундамэнт, дзед Павал паклаў па польскім злотым — пра гэта распавядала бабуля Клава. Колькі разоў, прыгадваючы гэта, уяўляла наш вялікі Дом ня столькі моцна ўгрунтаваным у зямлю, колькі прымагнічаным залатым бляскам, што нябачна трымае яе моцай зачараванага скарбу. Другой дамінантай пасьля печы ў кухні быў круглы стол. Абнаўляліся буфэт, крэслы, шпалеры. А стол заставаўся ранейшы — моцны, дубовы, круглы. Памятаю, як на ім стаялі міскі зь перабранымі суніцамі. Якія яны былі духмяныя! Печчу карысталіся нячаста. Хіба на сьвяты. Каб падрыхтаваць яе да выпечкі пірагоў, зьверху здымалі безьліч рэчаў: стары кажух, вязанкі сухіх грыбоў, венікі, зёлкі ў палатняных торбачках, пустыя валізы. Дух натопленай печы і булак поўніў дом да самых вышак. Гэта быў дух сьвята, дух Жыцьця.

У пакоі бабы Клавы і дзеда Шуры жыцьцё не спынялася нават у адсутнасьць гаспадароў. Забегшы ў яго аднойчы сярод сьляпога ліпеньскага дня, каб штосьці запытацца, я, ня ўбачыўшы нікога, супыніла свой лёт і зь цікаўнасьцю пачала ўзірацца і ўслухоўвацца. У цішыні, якую парушала адно зумканьне мухі, на мяне ўважліва паглядалі розныя, зусім не падобныя адна да адной асобы. То былі брулоўская вершніца на кані са сваёй ружовай дачкой, калматы Пан у вядзьмарскім сьвятле месяца і Лебедзь з раўнюткім праборам у чорных валасах, вусаты пан Пілсудзкі, а таксама антычныя і біблійныя героі на каляровых і чорна-белых аркушах, ахайна выразаных зь нейкіх часопісаў. У пакоі моцна пахла табакай і трошку мазямі ад раматусу. Тут пахла прысутнасьцю маіх бабулі і дзеда, якіх насамрэч цяпер не было, — дзед пілаваў дровы, бабуля пайшла на гарод па "салеру і пору". З авальнага партрэту на мяне паглядаў мой нязнаны і таямнічы родны дзед Павал Леановіч. Ён пабудаваў гэты Дом і менавіта адсюль 14 жніўня 1944 году яго павялі ў Ваўкавыскую турму, адкуль цягніком выслалі ў Магадан. Ён працаваў на пошце, быў настаўнікам беларускае мовы, гаварыў трыма мовамі, маляваў. Ягоныя малюнкі, пераважна партрэты людзей, накіданыя алоўкам і пяром, прыхадні, што зьявіліся тым жнівеньскім днём, панесьлі з сабой. Засталося адно некалькі рамантычных малюначкаў, пісаных алеем. Маці прыгадвае, як пабегла ў гарод нарваць памідораў, каб дапамагчы сваёй матулі сабраць дзеда ў дарогу, ды так і засталася стаяць са сьпелымі ажно да расшчэрбінак памідорынамі ля ганку. Не пасьпела... Цяжка ўявіць, што па такой знаёмай, тысячы разоў ходжанай сьцежцы ад дому ўніз да весьніц, паўз калодзеж, бэз, ігрушу, пайшоў і болей ніколі не вярнууўся мой дзед, а побач, топчучы траву, брылі чужыя ногі. Па зямлі, на якой рос ягоны сад, стаяў ягоны Дом, а калісьці, так даўно, тут было мора...



**Каля хаты дзед і бабуля (на зэдліку справа). Ваўкавыск, канец 1920-х.**

# Павал Ізотавіч адпачывае

## Якубовіча чакаюць у будынку на Лагойскім тракце


IREX-PROMEDIA

Давялося мне ў сярэдзіне траўня зьезьдзіць у Чэхію на тыдзень. У дзень, калі я вярнуўся адтуль, мяне чакаў непрыемны сюрпрыз: я раптам апынуўся жанатым-разлучоным і з наяўнасьцю дзяцей, якіх я пазбаўляў сродкаў да існаваньня, ня плацячы алімэнтаў. За што і быў асуджаны. Гэтулькі цікавага пра сябе я дазнаўся з *"Советской Белоруссии"* ад 8 траўня. Аўтарская калёнка Паўла Якубовіча дала пад дых амэрыканскаму імпэрыялізму, разьбіўшы ў пух ды пер'е даклад Дзяржпэпартамэнту ЗША аб парушэньні правоў чалавека ў Беларусі. Прысутнічала ў дакладзе і мая пэрсона: у ліпені 2001 г. я чарговы раз быў засуджаны за нанясеньне на будынак пратэстных графіці. Засуджаны паводле крымінальнага артыкула "псаваньне маёмасьці", які нічога супольнага ня мае зь нявыплатай алімэнтаў. У 1997 г. за графіці я быў засуджаны на 18 месяцаў калёніі ўзмоцненага рэжыму, але тады артыкул называўся "злоснае хуліганства". Ніколі я ня быў жанаты, што могуць засьведчыць мінскія гарадзкія ЗАГСы.

І ўсё адно — алімэнтшчык! Бацькі ў Стоўпцах засмучаныя. Горад маленькі, а наклад у газэты вялікі, дый на БТ у самы прайм-тайм артыкул прадубляваЛі. І ўжо праз пару дзён у "курылках" размаўлялі, што "дамарослы апазыцыянэр", маці якога працуе на пошце, — ніякі не апазыцыянэр і тым больш ня "вязень сумленьня", а звычайны алімэнтшчык.

Другая непрыемнасьць чакала ў асабістым жыцьці. Бацькі маёй дзяўчыны настолькі паралі ёй яшчэ раз праверыць маё былое асабістае жыцьцё ды ўвогуле біяграфію.

Карацей, непрыемнасьці пасыпаліся з усіх бакоў. І мне не заставалася нічога іншага, як падаць на шаноўную *"Советскую Белоруссию"* ды аўтара публікацыі пазоў у суд Савецкага раёну Менску. А каб думалі, перш чым друкаваць, запатрабаваў 12 млн. рублёў маральнае кампэнсацыі.

На распараджальным паседжаньні, калі прызначалася дата суду, прадстаўніца "Саўбеліі" нечакана вырашыла, што найлепшая абарона — гэта наступ, і пакаціла бочкі на мяне. Маўляў, я двойчы судзімы, а таму тып абсалютна амаральны, і ніякай публікацыяй майму гонару і годнасьці ўжо не пашкодзіш. Але пазоў мой суд прыняў без праблемаў і разгляд прызначыў на пачатак ліпеня. У прызначаны дзень мяне чакала расчараваньне: ні Павал Ізотавіч, ні юрыст рэдакцыі ў суд не зьявіліся, даслаўшы толькі паперу, што цяпер абодва знаходзяцца ў законным адпачынку. Што тут паробіш — зьезьдзіў у адпачынак і я. Разгляд прызначылі на 16 верасьня, але за тры дні да паседжаньня тэлефануе судзьдзя Фёдарава ды кажа: Павал Якубовіч паведаміў праз факс, што па-ранейшаму адпачывае і выйдзе на працу толькі 1 кастрычніка. Агулам тэрмін адпачынку рэдактара *"Советской Белоруссии"*, калі ён не перарываўся, пачаў набліжацца да трох месяцаў!

Дата наступнага паседжаньня яшчэ не прызначаная. Але хочацца спадзявацца, што сп.Якубовіч знойдзе-такі ў сабе сьмеласьць прыйсьці ў суд ды прызнаць свае памылкі. Не дзіця ж, каб хавацца ад закону, салідны чалавек... Так што, Павал Ізотавіч, я Вас чакаю ў будынку на Лагойскім тракце.

**Аляксей Шыдлоўскі**

## Сабачыя гісторыі



**Адзін сабака казаў**, што ў Грузіі ёсьць міжнародныя бандыты. Граждан не пярэчыў і прапанаваў у мэтах падтрыманьня міравых цэн на віно разбамбіць вінаграднікі.

**Да аднаго сабакі прыехаў** грузін. Граждан запытаўся ў госьця: "А вы атамную ракету маеце?"

**Адзін сабака сабраўся** ў Ірак інспэктарам камісіі па зброі масавага зьнішчэньня. А Граждан, які прадаваў квіткі ў вакзальную прыбіральню, аб'явіў галадоўку на карысьць Белкі і Стрэлкі.

**Адзін сабака думаў** пра Беларусь. Граждан думаў пра Ірак і бедных дзяцей белага арапа, якія цэлы год ня елі бульбы.

**Аднаму сабаку прыйшло** пісьмо з Іраку. Граждан тыдзень не начаваў дома — баяўся амэрыканскіх бамбаваньняў.

**В.Ш.**

## прыватныя абвесткі

### праца

**Fourth-year student** (programming) is looking for a job. Eugene. 285-00-00, ab.20093

**Танна распрацуем** сайт любой складанасьці. Пэйдж.: 211-85-85, аб.1976. E-mail: alehiv_st@tut.by

**Патрэбна хатняя выкладчыца** ангельскай мовы для хлопчыкаў 8 і дзяўчынкі 13 гадоў. Т.: 288-11-19, (0296) 64-64-01

### ушу

Прапануем для дзетак 6—7 гадоў заняткі ўшу. Праводзяцца яны па-беларуску. Т.: 288-68-91, пасьля 20.00. Ігар і Ганна

### футбол

**Набіраю хлочыкаў-шасьцігодак** на бясплатныя заняткі футболам (субота і нядзеля а 14-й), Машэрава, 22. Генадзь

### спачуваньне

**Ён жыў...** Ён пісаў... Ён верыў... Ён марыў... Ён будаваў... Ён імкнуўся да сьвятла... Але прыйшла Яна — халодная, чорная ды непазьбежная... І Ён паляцеў зь Ёй туды, дзе спакой і цішыня, няма здрады, злосьці, прыніжэньня... Артур Вольскі... Любім, Помнім, Смуткуем... Zнічка

### вітаньні

**Віншаваньні Зьмітру Бартосіку** з нагоды Пасьпяховых Пошукаў! Залескі "Сват"

**Дзякую Ўладзімеру Арлову**, Алесю Ягораву, Алесю Гуркову, бізнэсоўцу Ігару, Андрэю Ганчарову, Аляксандру Арэхва, цэнтру Філона Кміты і ўсім, хто прысутнічаў на Крапівенскім полі 7—8 верасьня. Фэст адбыўся. Беларус з-пад Воршы

**Шаноўны спадару Алесю Пашкевіч!** Шчыра віншуем Вас з Днём народзінаў! Студэнткі

**Віншую сваю стрыечную сястру Варачку** з 3-годзьдзем. Уладзімер Бакун

**Самую лепшую Янку** зь філфаку віншую з народзінамі. Няхай жыве Беларусь і родзіць капуста. Шыпец

### ідэі

**Абаронім наш край** ад акупантаў. Меч

**У жыце**, у бусьлянцы, у кветцы, у траве — жыве Беларусь. Жыве! Zьнічка

**Няхай Уладзімер Навіцкі** вядзе калёнку ў расейска-беларускай газэце, на гэтай жа мове. Глядач-беларус

**Прыму ў падарунак** маркі, манэты або рарытэтныя рэчы. Уладзімер, калекцыянэр

**"Дэмакраты"** прагнуць дэмакратыі безь беларусаў. Беларус

**"Дэмакраты"!** Вам не падабаецца Лукашэнка? Але нам яшчэ больш не падабаецца расейскі дыктатар

### кантакты

**Штočацьвер у Менску — чытаньні** вершаў беларускіх паэтаў ля помніка Я.Купалу а 17.30. Сябры КХП-БНФ

**Буду ўдзячны** за фатаздымкі з Крапіўны-2002. Генадзь Шэпелеў. Корбана, 6-13, Барань, Віцебская вобл., 211011

**Царква эвангельскіх хрысьціян-баптыстаў** "Новая Зямля" запрашае на набажэнствы штонядзелю а 15-й, на Чайкоўскага, 37

**Бубен** вельмі патрэбны музыкам-вандроўнікам. Набудзем новы ці ўжываны. Т.: 243-65-13 (20.00-24.00, Надзейка, Міхась)

**24 верасьня** ў касьцёле Сьвятых Сымона і Алены ў 19.00 Зьміцер Вайцюшкевіч і "WZ-orkiestra" з праграмай "Найлепшае"

**Студыя фольк-дызайну** "Рагнеда" запрашае на заняткі (бясплатныя) у панядзелкі а 18-й. Т.: 250-98-67

**Шукаю новых саюзьнікаў** па жыцьці. А/с 71, 220073, Менск-73. Аляксей

**Я, 28 год**, прывабны, добры, вельмі верны, з в/а, люблю кнігі, хатнюю ўтульнасьць. Ты — простая верная дзяўчына, выгляд, адукацыя, стан здароўя значэньня ня маюць. Пісаць толькі для стварэньня сям'і. А/с 21, 210021, Віцебск. Аляксандру

### кватэра

**Куплю** 1-пакаёвую кватэру без агенцтваў. Т.: 234-46-06

**Куплю** 2-пакаёвую кватэру без пасярэднікаў. Т.: 234-46-06

**Віцебск на Менск**: 1-пакаёвую кватэру, новую, прыватызаваную, палепшанай пляніроўкі мяняю на кватэру. Дапамагу зь перавозкай Вашых рэчаў. Т.: (у Віцебску): 36-87-06

### лецішча

**Прадаецца лецішча**, 10 сотак, 20 км ад Менску. Рэдкія расьліны, выдатны дызайн, лес, возера. Т.: 234-10-38, 223-88-76

### кнігі, музыка

**Дашлю задарма** беларускі "Lemantar" лацінкай. Замовы пішэце на mikalaus@yahoo.com. Вучыце дзяцей беларускай лацінцы!

**Шукаю і прапаную** часопісы "Спадчына", "Беларускі гістарычны часопіс", "Беларуская мінуўшчына". Сялянская, 5-44, Гомель-50. Юр'ю

**Кнігу Паўла Севярынца** "Пакаленьне Маладога Фронту" прадам. Т.: 254-77-59 (Аляксей)

**Незалежныя часопісы** й кнігі ў Маладэчне. Ёсьць кнігі У.Мартыненкі. Т.: (273) 30-0-20, аб.885

**Падкажэце, калі ласка**, дзе можна набыць 1—3 тамы Беларускай энцыклапэдыі. Т.: (0222) 45-40-38. Пэйдж.: (0222) 220-53-22, аб.1110. lenin@tut.by

**Кнігу вершаў** Тацяны Барысюк "Аўтапартрэт" можна набыць у ТБМ

**Куплю** "Слоўнік літаратуразнаўчых тэрмінаў" Лазарука, Ленсу. Т.: 251-19-52, Тацяна

**Вельмі танна прадаю** цудоўныя кнігі з хатняй бібліятэкі на розныя тэмы ў добрым стане. Укладзіце капэрту, вышлю каталёг. А/с 21, 210021, Віцебск

**Прадаю** новую Біблію за 1500 рублёў, эпапэю Салжаніцына "Чырвонае кола" ў 5 т., каляровыя рэпрадукцыі малюнкаў знакамітых мастакоў зь лепшых музэяў сьвету. 200 шт. па 20 рублёў кожная. Т. (у Віцебску): (212) 36-87-06

Гэты нумар "Нашай Нівы" выйшаў дзякуючы ахвяраваньню спадара Віталя Тараса з Прагі.

## паштовая скрынка

**Арцёму А.** Зьвядзіце свае занатоўкі пра Рэмарка ў эсэ.

**Віталю Я. з email.de.** Аплата за карыстаньне on-line вэрсіяй будзе ўведзеная толькі пасьля мадэрнізацыі сайту, дый грошы там невялікія.

**Лявону М. зь Менску.** Калі ісьці за Вашай тэорыяй, дык і Джордж Буш будзе агентам ФСБ. Несур'ёзна.

**Ягору А. зь Менску.** Вы няслушна вызначылі жанр свайго твору — гэта не замалёўка, а апавяданьне. Прычым не газэтнае, бо амаль няма ў ім дынамікі, інтрыгі. Тры чвэрці тэксту займае размова — ідэалягічна вытрыманая, але нецікавая.

## КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ______

Імя і прозьвішча ______

Адрас, тэлефон ______




НАША НІВА
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары "Нашай Нівы":**
С.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| галоўны рэдактар | Андрэй Дынько |
| выпускны рэдактар | Сяргей Ёрш |
| карэктар | Сяргей Петрыкевіч |
| карэктарка | Галіна Рабянкова |
| нам. галоўнага рэдактара | Андрэй Скурко |
| мастацкі рэдактар | Андрэй Чык |
| выдавец і заснавальнік | Фонд выданьня газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, (0296) 13-32-32.**
**E-mail: nn@promedia.by**
**On-line: www.nn.by**




8 палос фарматам А2. Друкарня РУП "Выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 2002 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: г.Менск, вул. Калектарная, 20а, п. 2а.

Наклад 3676.

Нумар падпісаны ў друк 18.09.2002.

Замова № 5932

Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а